# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 7 (168), 15 ЛЮТАГА 1995 ГОДА. КОШТ 200 РУБЛЁЎ



"ЧАГО ПЛАЧА НАТАША?" • стар. 3

КАМУНІЗМУ НІКОЛІ НЕ БУДЗЕ • стар. 3 – 5

"ДЗЕ – Я?" — ДЗЕЦЯМ • стар. 5

ПАКУЛЬ БАЛІЦЬ ДУША... • стар. 8


## ВЕЛІЧ АРТЫСТЫЗМУ

Мяркую, можна без перабольшвання сказаць — такога свята духавой музыкі сцены Беларускай дзяржаўнай філармоніі не ведалі ўжо даўно. Незвычайнае харастсва яскравых гукаў падарылі вечарам 30 студзеня ўдзячным слухачам, што запоўнілі глядзельную залу, аркестр духавых інструментаў "Няміга" і дырыжор са Злучаных Штатаў Амерыкі Дэвід Андрэ. Вядомы беларускі музычны калектыў, які не аднойчы радаваў нас з вамі выдатнымі праграмамі, складзенымі з папулярных твораў духавой класікі, паўстаў на гэты раз у новай выканаўчай якасці. Перад музыкамі стаяла вельмі складаная задача: усяго за некалькі рэпетыцый засвоіць зусім новы, незвычайны па стылі і характары рэпертуар, складзены з твораў амерыканскіх кампазітараў. Вядома не адразу, ад рэпетыцый да рэпетыцый, у сумеснай творчай працы ішлі насустрач адзін аднаму калектыў, з ягонымі традыцыямі выканання, у чымсьці, мабыць, нават і стэрэатыпнымі, якія неабходна было карэкціраваць амаль што адразу "па ходзе дзеяння", і маэстра Андрэ — дырыжор з вялікім творчым вопытам і бліскучым адчуваннем аркестра, ягоных музычных фарбаў, патэнцыяльных магчымасцей, аб якіх, можа здарыцца, дагэтуль не падазравалі нават самі музыкі. Было вельмі цікава сачыць за тым, як паступова ўскладнялася, напаўнялася жыццём, узбагачаючыся ўсё новымі і новымі яскравымі фарбамі, тое велізарнае музычнае палатно, якое, нарэшце, і было вынесена на суд слухачоў. Аўдыторыя ўсхвалявана прымала ўсе без вынятку нумары праграмы, што яскрава сведчыць не толькі аб высокім узроўні выканання, але і аб тым, што аркестр "Няміга", духавая музыка цалкам, без сумнення, маюць "сваю" публіку, добра падрыхтаваную, здольную ўспрымаць такі складаны і незвычайны рэпертуар.

Праграма канцэрта была састаўлена разнастайна і цікава. Яна прадстаўляла сабою розныя па стылі музычныя нумары, ад шырока вядомых (і прагучаўшых з асаблівым бляскам) маршаў "караля маршавай музыкі" Д.Сузы "Вашынгтон пост" і "Зоркі і Палосы" да такіх складаных сімфанізаваных палотнаў, як "Чатыры эцюды па творах Эмерсана" П.Сака, ці "Псалом для аркестра" В.Персікеці. Па-сапраўднаму святочна прагучалі "Фанфары звычайнаму чалавеку" А.Копленда, "Святочная музыка" В.Нельхібела. Разнастайныя магчымасці гучання аркестра былі дакладна прадстаўлены ў такіх творах, спецыяльна аранжаваных для духавога аркестра, як "Сякера" А.Хаванеса, "Марс" (з цыкла "Планеты") Г.Холста, "Багатырская брама" (з цыкла "Карцінкі з выставы") М.Мусаргскага.

Прыемнай нечаканасцю ў гэтай няпростай праграме сталася выступленне калектыву з удзелам вядучых музыкантаў аркестра і ўжо шырока вядомых мінскаму слухачу. Размова пойдзе аб брас-квінтэце, які выканаў на пачатку другога аддзялення канцэрта невялічкі блок джазавадыксілендавай музыкі, вясёлай, пламянеючай, але выдатна адцененай лірычным "Рамансам" Рафаэля Мендэса, у якім цудоўна саліравалі заслужаны артыст Беларусі В.Волкаў (труба) і А.Шусталік (валторна). Сам маэстра Андрэ выступіў з прапановай уключэння брас-квінтэта ў праграму канцэрта — своеасаблівая даніна майстэрству і прафесійнасці музыкантаў гэтага калектыву. Разам з музыкамі апладысменты і энтузіязм публікі падзяліў спадар Конрад Тэрнер, дырэктар культурна-інфармацыйнага цэнтра ЗША, які на гэты раз увайшоў у склад квінтэта і цудоўна ўпісаўся ў партыю труб. Ён з'явіўся, па трапным вырaзе аднаго з музыкаў брас-квінтэта, "лепшым трубачом сярод дыпламатаў і лепшым дыпламатам сярод трубачоў".

Зразумела, над усім гэтым яскравым музычным святам сапраўды цараваў Дэвід Андрэ — музыка, які прадэманстраваў усім прысутным у зале выдатныя якасці: неабсяжны творчы тэмперамент, які адразу захапіў аркестр і слухачоў у зале і не дазволіў нікому з прысутных заставацца абыякавым да таго, што адбывалася ў гэтых сцэнах, дырыжорскую волю і нават уладарнасць, здольнасць утрымліваць аркестр на вяршыні ягоных магчымасцей, веліч артыстызму. Спалучэнне дакладнасці і гарманічнасці ў пабудове праграмы канцэрта — гэтыя і многія іншыя якасці маэстра прывялі да выдатнага, незабыўнага поспеху. Так, на гэты раз у зале Белдзяржфілармоніі зноў царавала Музыка. Сустрэча з ёй надоўга застанецца ў памяці, сэрцы і думках.

**Алена ГАРАХАВІК,**
**музыказнаўца**



## Дэвід АНДРЭ:
## "... НА КЕПСКІХ ІНСТРУМЕНТАХ ЯНЫ ТВОРАЦЬ ЦУДЫ!"

***Музыкант нарадзіўся ў Каліфорніі. Ступень магістра мастацтваў у музыцы атрымаў ва універсітэце штата Вашынгтон, пазней — ступень доктара ў галіне музыкі і тэатра. Сярод ягоных спецыяльнасцей — аркестравае дырыжыраванне, оперная пастаноўка, тэатр і аркестроўка. Ён вучыўся і супрацоўнічаў з Рычардам Лертам і Карласам Чаўзам.***

***З 1985 года Дэвід Андрэ — музычны дырэктар і дырыжор сімфанічнага аркестра графства Цьюлэар. Ён шмат гастралюе.***

***Маэстра знаходзіць час для лекцый у Каліфарнійскім універсітэце, надаючы значную ўвагу музыцы нашага стагоддзя і дырыжорскай дзейнасці ў аркестры "Tülare connty", зрабіўшы яго першакласным. Дэвід Андрэ любіць ствараць новыя і незвычайныя праграмы.***

***Калі наш карэспандэнт сустрэўся ў перапынку з дырыжорам, маэстра быў крыху стомлены. Што паробіш: у нашай філармоніі не прадугледжаны прыстасаваныя пакоі для адпачынку артыстаў. Але Дэвід Андрэ ветліва адказаў на нашыя пытанні.***

**— Якая мэта творчага візіту на Беларусь спадара Андрэ?**

— Я хацеў тут паказаць музыку Злучаных Штатаў, — зазначыў маэстра, — а таксама вызначыць моманты сутыкнення паміж амерыканскай і беларускай музыкай. Увогуле мне цікава было пазнаёміцца з беларускай музычнай культурай.

**— Чым блізкія і чым адрозныя беларускія і амерыканскія музыканты?**

— І тыя, і другія — цудоўныя выканаўцы. Існуюць адрозненні ў падыходах. Беларускія артысты падыходзяць да музыкі традыцыйна, амерыканскія імкнуцца да большай незалежнасці ад стыляў, яны больш гнутка ставяцца да розных відаў музыкі. Традыцыйнае выкананне не так распаўсюджана ў Амерыцы, як на Беларусі. Мне, аднак, вельмі прыемна было працаваць з аркестрамі, якія захоўваюць гэтыя традыцыі.

**— Як Вы ацэньваеце клас ігры беларускіх музыкантаў?**

— Узровень выканання вельмі высокі, тэхніка і якасць — таксама. Адно толькі — іграюць яны на дрэнных інструментах, многія з якіх вымагаюць рамонту. Але, тым не менш, твораць цуды. Ёсць праблемы з акустыкай, якая падкрэслівае і якаснае і няякаснае выкананне твораў.

**— Ці знайшла б творчасць нашых музыкантаў водгук у заакіянскіх аматараў музыкі?**

— Мяркую, што прыём быў бы вельмі добры.

**— Наколькі вядома, апроч музычнай дзейнасці, Вы займаецеся і дабрачыннасцю.**

— Так, мэтай маёй паездкі з'яўлялася таксама і аказанне дапамогі дзецям Беларусі, якія пацярпелі ад чарнобыльскага наступства. Неабходныя лекі і медыцынскае абсталяванне будуць паступаць яшчэ.

**— Вас можна чакаць у Мінску зноў?**

— Спадзяюся прыехаць сюды неадназразова. Я жадаю людзям Беларусі як мага хутчэй стаць паўнавартаснымі членамі еўрапейскага дома, эканамічнага супольніцтва. Гэта ў хуткім часе падвысіць узровень жыцця і дабрабыт вашага народа.

**На заканчэнне спадар Андрэ пакінуў свой аўтограф.**

**Наталля АЛЕКСЯЕЎСКАЯ**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

СЯРЭДЗІНА ТЫДНЯ

ВЕРТЫКАЛЬ

## ЛЯТАЕ ВЕРАБЕЙ, ЛЯТАЕ...

Кожны дзень, ловячы вухам апошнія паведамленні аб палітычным жыцці нашай краіны, міжволі ўспамінаеш пра таго вераб'я, з якім атаясамліваецца Слова ў вядомай прымаўцы "Слова не верабей..." Вылятае той верабей з вуснаў нашага "бацькі" ў белы свет ледзь не штодня. І ўсё розны — то, найчасцей, зялёна-чырвоны, то карычнева-чырвоны, то, зрэдчас, з'яўляецца на ім нейкі водбліск дзяржаўнага колеру... Але белыя палосы на пер'ях нашага вераб'я з'яўляюцца так нечакана, што гэта можна палічыць цудам, накшталт біблейскага сюжэта аб жывёліне, якая загаварыла неспадзеўкі, альбо галуба, які абвясціў аб прызванні Марыі.

Такім цудам апошняга часу было выступленне Прэзідэнта ў літоўскім Сойме. Слухаеш — і душа радуецца і не верыць: тут табе і аб суверэннасці Беларусі, і на мове дзяржаўнай, і нацыскі на дзяржаўныя прыярытэты там, дзе трэба! Дык жа нашы суседзі — проста валхвы, якія, хочаш-не хочаш, нагадалі беларусам, што суверэннай краіне трэба мець самастойную палітыку! Можа, варта штомесяц наладжваць такія сустрэчы, глядзіш, і запомніцца гэтая простая ісціна, як бясспрэчная аксіёма...

Але адчуванне цуду азмрочвалася нядаўняй прамовай той жа асобы на сустрэчы з ветэранамі. Там на скаргі, што, маўляў, змагаліся не пад тымі сцягамі, Прэзідэнт адназначна паабяцаў вярнуць старую, бээсэсэраўскую сімволіку, а заадно і правесці рэферэндум па мове, каб вярнуць той час, калі татальнае абрусенне беларусаў ішло да свайго трагічнага завяршэння. Праўда, абаронцы Адзінай Непадзельнай Імперыі не даўмеліся да аднаго — каму патрэбна будзе ў той Імперыі бээсэсэраўская сімволіка? Расія ідзе ў будучае пад двухгаловым расійскім арлом, якога спакойна ўспрымае большасць насельніцтва, хаця многія з іх таксама змагаліся не пад гэтым сцягам. Вядома, чаму так адбываецца: памяць пра старую сімволіку тут свяжэйшая, 1913 год усё ж бліжэй, чым 1795-ы, калі канчаткова скончылася ўсялякае ўспомненне пра Вялікае княства Літоўскае, і тым больш пра Грунвальд, дзе наша "Пагоня" горда высілася над пераможанымі тэўтонамі.

Наш Прэзідэнт ўвогуле абыходзіцца са словам-вераб'ём вельмі вольна, той лётае, дзе і як хоча. Ну, хочацца, напрыклад, вераб'ю з ганьбай абазвацца пра "какого-то там коня и меча", як ён тут жа пырхне ў свет, хаця найгоршаму абэцэдараўскаму гісторыку вядома пра Грунвальд і сімволіку пераможцаў. І хаця каля таго ж коніка і таго ж вершніка з гонарам стаялі суседзі-літоўцы, дзеля якіх і наш верабей прысмірэў і зачырыкаў па-свойску, па-тутэйшаму. Шкада, што візіт быў кароткі...

Вось тут і думай — дзе ж праўда? Гульні з Захадам — толькі, мабыць, гульні. Праўда ў тым, пра што нядаўна гаварылі ў праграме "Праспект", а менавіта, што беларускую афіцыйную палітыку сілком цягнуць туды, дзе пахне нафтай, а значыць, і мільярдамі долараў. Гэты пах адчуваецца і на старонках новаспечаных газет, якія адкрываюць былыя галоўныя рэдактары як бы на "сабраныя калектывам грошы". Калі б усе беларускія (сапраўды беларускія!) журналісты склалі свае мізэрныя заробкі, іх не хапіла б і на тры паласы газетнага тэксту. У патрыётаў ёсць толькі любоў да сваёй зямлі і цвёрдая вера ў боскае наканаванне, якое не дасць загінуць гэтаму народу. А што яшчэ застаецца рабіць? Нават цуд у нашай краіне з падвойным дном, і ветэраны, перад якімі выступаў Прэзідэнт, мабыць, таксама чакаюць вяртання СССР, якое ён ім абяцаў, а таксама тае сімволікі, пра якую дасціпны народны гумар "яшчэ ў тыя часы" апавядаў так:

Хочаш сей, хочаш куй,
Так і сяк выходзіць дуля.

Пытанне толькі ў тым, ці доўга дасць народ вераб'ю лятаць досхочу?

**В.М.**

## ДЗЕНЬ ВЫПУСКНІКА — НАЦЫЯНАЛЬНАЕ СВЯТА ШКОЛЫ

Першая субота лютага па даўно ўсталяванай традыцыі — Дзень выпускніка. У розных школах гэты дзень праходзіць па-рознаму. Дзесьці — гэта вялікае свята з кветкамі для настаўнікаў, з упрыгожанай канферэнц-залай, з выступленнямі былых вучняў, а дзесьці — проста школьны ганак, "стрэлка" — месца спаткання былых закаханых, старых сяброў, адкуль пачынаецца паход да бліжэйшай кавярні.

Па-іншаму быў адзначаны Дзень выпускніка ў 160-й школе горада Мінска.

— Наша школа — звычайная базавая. Але з гэтага года мы сталі беларускай школай,— казаў перад сваімі выпускнікамі дырэктар Кухарчык Мікалай Васілевіч.— Хаця апошнім часам адчуваецца адкат ад беларускасці, мы будзем прынцыпова прытрымлівацца Закону аб мове. Так, у нас не хапае сродкаў для элементарнага бягучага рамонту, але галоўная задача нашай школы — не дапусціць духоўнага збяднення...

Па запрашэнні дырэктара выступіць перад былымі вучнямі прыехалі беларускія паэты і барды. І трэба прызнаць, што канцэрт адбыўся! Чаго граха таіць, рускамоўны горад "агароджвае" моладзь ад беларускасці, а і, бывае, увогуле люмпенізуе. Прыемна адзначыць, што не было ў запоўненай канферэнц-зале звычайнай мікраённай школы ніводнага абыякавага твару, і трэба адзначыць, што былых вучняў ніхто не прымушаў прысутнічаць на канцэрце, не стаялі за іх спінамі, як гэта часта бывае падчас вучобы, настаўнікі беларускай мовы і літаратуры, не сачылі за іх паводзінамі, не запісвалі ў кандуіт непрысутных і "неприлежных".

Вёў канцэрт паэт Алесь Гібкоўскі. Яму ўдавалася тактоўна прадстаўляць кожнага выступоўца і падтрымліваць цікавасць гледача. А выступалі: бард і паэт Эдуард Акулін — аўтар лірычных, мілагучных песень, Валеры Пазнякевіч — з больш публіцыстычна-"апасродкаванымі" творамі і Сяргей Мінскевіч — з гумарыстычнымі, іранічнымі "опусамі". Паміж песнямі гучалі вершы, пароды, кароткія апавяданні тых жа выканаўцаў.

Трэба прызнаць, што гэта быў прэцэдэнт: першае беларускае свята школы — Дзень выпускнікоў — у сталіцы. І калі пасля канцэрта былыя вучні сярэдняй школы не занадта прэстыжнага мікраёна Паўднёвы Захад-3 падыходзілі да бардаў не за аўтографамі, а за тэкстамі песень, каб потым у сваіх кампаніях спяваць іх, а пытанне, што песні напісаны незразумелай мовай, нават не паўставала, можна з упэўненасцю сказаць, што ідэя адраджэння сваёй нацыянальнай годнасці не проста лунае ў паветры, а ўкараняецца ў свядомасці моладзі і неўзабаве дасць свой плён. Трэба толькі аберагчы яе, не дазволіць спляжыць бездухоўнымі пячаткамі на зусім нікчэмных і недарэчных указах.

**Наш кар.**

## ПАЖАР У ЗДРАЎНЕВЕ

Моцны пажар адбыўся ў музеі-сядзібе Іллі Рэпіна ў Здраўневе пад Віцебскам. Агонь знішчыў вежачку на даху будынка і мастацкія каштоўнасці, што знаходзіліся на другім паверсе. Сярод іх была унікальная калекцыя работ керамістаў Людмілы і Валерыя Кавальчукоў. Пажарным удалося выратаваць значную частку музейнай маёмасці, што знаходзілася на першым паверсе.

Прычыны пажара і маштабы страт пакуль не выяўлены.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛІНФАРМ.**



## БЕЛАРУСКІ ФОНД СОРАСА
## КУЛЬТУРНАЯ І ВЫДАВЕЦКАЯ ПРАГРАМЫ

Беларускі Фонд Сораса абвяшчае аб пачатку КОНКУРСУ праектаў, звязаных з пастаноўкай тэатральных спектакляў на аснове існуючых драматургічных альбо музычных твораў. Конкурс прадугледжвае выдаткаванне 6 грантаў. У конкурсе маюць права ўдзельнічаць як прафесійныя, так і аматарскія тэатральныя калектывы.

**Падача праектаў на ўдзел у конкурсе.** Праекты падаюцца ў выглядзе заявак на грант паводле распрацаванай формы. Форму заяўкі можна атрымаць у Беларускім Фондзе Сораса альбо ў Віцебскім і Гомельскім аддзяленнях БФС. Заяўкі, пададзеныя не па форме, не разглядаюцца. Праекты дасылаюцца на адрас: г.Мінск 220027, пр.Ф.Скарыны, 65, корп. 11А, пак. 517А. Беларускі Фонд Сораса. На канверце і ў правым верхнім куце заяўкі пазначаецца: "На конкурс тэатральных праектаў".

**Тэрміны падачы заявак.** Апошні тэрмін падачы заявак (па паштовым штэмпелі) — 31 сакавіка 1995 г.

**БФС абвяшчае таксама аб пачатку Праграмы падтрымкі часопісаў культурнага накірунку.** З мэтай пашырэння чытацкай аўдыторыі Фонд прапануе рэдакцыям часопісаў культурнага накірунку арганізаваць падпіску сваіх выданняў для публічных, школьных і студэнцкіх бібліятэк, студэнцкіх інтэрнатаў на другую палову б.г. Прапановы-лісты адносна плануемай колькасці падпісак просьба накіраваць у Фонд па ўказаным вышэй адрасе каардынатару культурных і выдавецкіх праграм Алесю Анціпенку. Лісты накіроўваюцца з пазнакай на канверце "Падпіска". Апошні тэрмін адпраўкі лістоў — 31 сакавіка б.г. Пасля разгляду прапаноў і вызначэння канчатковай колькасці падпісак Фонд абавязваецца аплаціць іх кошт.

З мэтай актывізацыі творчага працэсу Фонд абвяшчае КОНКУРС на лепшы нумар часопіса культурнага накірунку (тры прэміі: першая — 2500 долараў ЗША, другая — 1500 долараў ЗША, трэцяя — 1000 долараў ЗША, якія будуць выплочвацца ў беларускіх рублях па курсе Нацыянальнага банка РБ).

Паводле ўмоваў конкурсу 60 працэнтаў прэміі выплочваецца аўтарам нумара-пераможцы і 40 працэнтаў рэдактарскаму складу. Выплаты прэмій аўтарам нумара ажыццяўляюць рэдакцыі часопісаў-пераможцаў. Афіцыйны пачатак конкурсу — красавік 1995 года, заканчэнне — верасень 1995. Рэдакцыйныя калектывы, зацікаўленыя ва ўдзеле ў конкурсе, абавязаны рэгулярна дасылаць нумары свайго выдання на адрас БФС А.Анціпенку.

У межах названай праграмы абвяшчаецца КОНКУРС на атрыманне грантаў часопісамі культурнага накірунку (5 грантаў). Заяўкі на ўдзел у гэтым конкурсе складаюцца ў вольнай форме з абавязковым указаннем аўтара заяўкі, назвы часопіса, яго скіраванасці, адраса, кантактных тэлефонаў, апісаннем асноўных праблем існавання часопіса, бізнес-плана альбо апісання шляхоў і сродкаў выжывання часопіса ў рынкавых умовах, апісаннем першачарговых фінансавых і матэрыяльна-тэхнічных праблем, вырашэнне якіх у найбольшай ступені будзе садзейнічаць выжыванню часопіса. Заяўкі накіроўваюцца па ўказаным вышэй адрасе з пазнакай на канверце і ў правым верхнім куце заяўкі "Конкурс грантаў для часопісаў культурнага накірунку". Напісаныя ад рукі заяўкі не разглядаюцца. Апошні тэрмін падачы заявак: 31 сакавіка 1995 г.

Для разгляду праектаў БФС стварае журы. Канчатковае рашэнне аб падтрымцы праектаў і памерах іх фінансавання прымаецца Фондам. Аб выніках конкурсаў будзе аб'яўлена ў друку.

**THE BELARUSIAN SOROS FOUNDATION**

notifies about two competitions organised by SHAVE INTERNATIONAL ARTISTS WORKSHOP and GASWORKS studios (both in the UK). SHAVE invites applications from artists who are interested in the challenge of collaborating, experimenting and creating site specific works. Submission deadline is March 1st 1995.

GASWORKS invite those artists (painting and sculpture) who would like to work at the Gasworks Studios. Detailed information is available at The Information Centre of the BSF (See below).

Беларускі Фонд Сораса паведамляе, што ў Інфармацыйным Цэнтры БФС (Бібліятэка АН РБ, Мінск, вул.Сурганава, 15, пак.11. Гадзіны працы: 14.00 — 18.00) усе жадаючыя могуць таксама азнаёміцца з Інфармацыйным бюлетэнем Цэнтра сучаснай музыкі "Gaudeamus Foundation" і Еўрапейскім даведнікам на 1995 год па ўсіх відах выканальніцкага мастацтва ("Performing Arts Yearbook for Europe 1995), які ўтрымлівае рознабаковую інфармацыю аб усіх значных еўрапейскіх нацыянальных і міжнародных арганізацыях, цэнтрах, фондах, оперных і драматычных тэатрах, конкурсах, фестывалях і г.д.

*Заўвага: БФС і Інфармацыйны Цэнтр не аказваюць ні перакладчыцкіх, ні пасрэдніцкіх паслуг.*

## СТЫПЕНДЫІ ДЛЯ ТВОРЦАЎ

У мэтах захавання і развіцця культурнага патэнцыялу Рэспублікі Беларусь і на падставе пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 1 чэрвеня 1994г. № 412 "Аб мерах па падтрымцы творчай інтэлігенцыі Рэспублікі Беларусь", у адпаведнасці з рашэннем камісіі па прысуджэнні дзяржаўных стыпендый дзеячам культуры і мастацтва, творчай моладзі Рэспублікі Беларусь ад 09.12.94г. міністр культуры і друку РБ А.І.Бутэвіч падпісаў загад аб устанаўленні дзяржаўных стыпендый з 01.01.95г. дзеячам культуры і мастацтва ва ўзросце да 40 гадоў у памеры 4 мінімальных заработных плат штомесячна на працягу 1995 года і аб устанаўленні дзяржаўных стыпендый з 01.01.95 года дзеячам культуры і мастацтва ва ўзросце звыш 40 гадоў у памеры 6 мінімальных заработных плат штомесячна на працягу 1995 года.

*Дзеячы культуры і мастацтва ва ўзросце да 40 гадоў, якім прысуджаны дзяржаўныя стыпендыі на 1995 год*

Загарэўская Ніна Альбертаўна — пісьменніца; Шніп (Рублеўская) Людміла Іванаўна — пісьменніца; Канапелька Ала Іванаўна — пісьменніца; Бярсудскі Аляксандр Станіслававіч — журналіст; Кузняцоў Вячаслаў Уладзіміравіч — кампазітар; Ліцвіноўскі Аляксандр Фёдаравіч — кампазітар; Карасцялёў Андрэй Уладзіміравіч — саліст ансамбля "Харошкі"; Рабкевіч Валянцін Валянцінавіч — саліст ансамбля "Харошкі"; Крэмко Аляксандр Яўгенавіч — саліст Дзяржаўнага акадэмічнага народнага аркестра імя Жыновіча; Мікулік Сяргей Аляксандравіч — саліст-піяніст; Шыкавец (Раманская) Наталля Міхайлаўна — салістка Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору Беларусі імя Цітовіча; Голубеў Ігар Уладзіміравіч — скульптар; Андраюк Аляксей Анатолевіч — архітэктар; Сакалова-Кубай Ніна Мікалаеўна — народны майстар; Несцярэўскі Сяргей Мікалаевіч — народны майстар; Русава Людміла Генадзеўна — мастак-жывапісец; Ліс Яўгіня Іванаўна — графік; Князеў Мікалай Пятровіч — кінарэжысёр; Цімошкін Аляксандр Міхайлавіч — акцёр тэатра-студыі кінаакцёра; Давыдзька Генадзь Браніслававіч — акцёр Нацыянальнага тэатра імя Я.Купалы; Чацверыкоў Ігар Віталевіч — кінарэжысёр; Дзем'янкоў Аляксандр Уладзіміравіч — кінарэжысёр; Козел Вераніка Мікалаеўна — крытык; Куноўская Марына Эдуардаўна — журналістка; Хатэнка Антаніна Яўгенаўна — пісьменніца.

*Дзеячы культуры і мастацтва ва ўзросце звыш 40 гадоў, якім прысуджаны стыпендыі на 1995 год*

Алоўнікаў Уладзімір Уладзіміравіч — кампазітар; Вагнер Генрых Матусавіч — кампазітар; Смольскі Дзмітрый Браніслававіч — кампазітар; Курмакін Анатоль Дзмітрыевіч — саліст Дзяржаўнага акадэмічнага народнага аркестра імя І.Жыновіча; Котаў Мікалай Конанавіч — кіраўнік фальклорнага калектыву "Гармонія"; Крыловіч Валянціна Міхайлаўна — салістка Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору Беларусі імя Цітовіча; Агафоненка Таісія Паўлаўна — народны майстар; Лось Ларыса Мікалаеўна — народны майстар; Лось Алена Георгіеўна — графік; Чарнышоў Алег Віктаравіч — дызайнер; Рондэль Валерый Раўлевіч — архітэктар; Паланевіч Станіслаў Феліцыянавіч — дызайнер; Ліхачова Таццяна Уладзіміраўна — артыстка Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Я.Коласа; Дзяругін Віктар Пятровіч — рэжысёр-пастаноўшчык кінастудыі "Беларусьфільм"; Белацаркоўскі Рыгор Якаўлевіч — акцёр Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра; Кавалерава Вера Іллінічна — актрыса Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача; Румянцава Любоў Рыгораўна — актрыса тэатра-студыі кінаакцёра; Панчанка Пімен Емяльянавіч — пісьменнік; Наўроцкі Алесь Піліпавіч — пісьменнік; Мацяш Ніна Іосіфаўна — пісьменніца; Пфляўмбаўм Яўгенія Эргардаўна — пісьменніца; Арахоўскі Мікола Аляксандравіч — пісьменнік; Пархута Яраслаў Сільвестравіч — пісьменнік, журналіст; Ганчароў Фёдар Фёдаравіч — журналіст; Клебановіч Вольга Міхайлаўна — актрыса.

БІЗНЕС І КУЛЬТУРА

# КАМУНІЗМУ НІКОЛІ НЕ БУДЗЕ

## МАСТАЦТВА ДЛЯ ХВОРЫХ ЛЮДЗЕЙ ЗААХВОЧВАЕ МЫСЛЯРСТВА

***Подпіс пад выяваю цяжарнае жанчыны "Vita nova" ("Новае жыццё") ці то змусіў, ці то заахвоціў мастака Мікалая ХАЛЕЗІНА, як той казаў, вызначыцца. Або — арганізавацца. З сябрамі-паплечнікамі, дбайцамі сучаснага мастацтва, у самы-цэнтр... сучаснага мастацтва пад назваю Vita nova. Каб вызначыцца канчаткова, пра жыццёвую навюткасць у Мікалая Халезіна, мастацкага кіраўніка цэнтра, давялося папытаць адразу...***

— Та-ак... Арганізаваліся мы ў 1990. Развіццё галерэі (а напачатку Vita nova ўяўляла сабою галерэю) прыпала на 1991, — нас зарэгістравалі. Сталі рабіць традыцыйныя (або звыклыя) праекты. І толькі калі ўпрыцён, як той казаў, прысунуліся да ідэалогіі сучаснага мастацтва, самі праекты сталі і развіваць, і мяняць. Наш першы — "Безумный Пьеро, или Путешествие по Омерике". Дваццаці мастакам, што гандлююць ля мастацкага салона на Скарынавым праспекце, мы заказалі (аплацілі!) па карціне (аднолькавага памеру і фармату) на тэму дачыненасці П'еро да Каламбіны. Іншымі словамі, людзям, якія займаюцца банальным мастацтвам, мы заказалі творы на банальны сюжэт, але змясцілі ўсю іх творчасць у галерэю для мастакоў з пэўным (і досыць высокім) статусам. Наладзілі свята для мастакоў і займелі процьму назіранняў. Прыходзілі гледачы і на нашых вачах пачыналі... расслойвацца. Аднаму падабалася ўсё, іншаму — асобныя карцінкі, і толькі зрэдчас хтосьці быў у стане ацаніць увесь праект. Цалкам! І гэта было найдаражэйшым... Другі наш праект называўся "Прывітанне з Віцебска": карціны месціліся нізка-нізка, усё было памастацку аздоблена (аблямавана) рыззём, бярвеннем, сякім-такім ужытковым рыштункам, але ўвесь цымус быў у суправаджальным тэксце... Гэтыя два праекты і няўрымслівая цікавасць пахінулі нас да доследнае працы. Нам карцела зразумець, што да чаго. Пачалі перакладаць артыкулы з замежных выданняў у часопіснай зале Нацыянальнай бібліятэкі, нас кансультавала дый цяпер дапамагае літаратураю Ларыса Моргун, бібліятэчны прадстаўнік, за што ёй вялікі дзякуй. Яна, дарэчы, сведчыць, што мала хто просіць у яе матэрыялы па сучасным мастацтве. Факт сам па сабе насцярожвае: людзі, якіх прафесія не можа змусіць авалодаць патрэбнай інфармацыяй, проста не ведаюць ні стану, ні становішча сучаснага мастацтва, я ўжо не кажу пра ўплывы, паразуменне, пільную ўвагу. Мо яны дагэтуль спадзяюцца на натхненне, азарэнне і да т.п.?

**— Тады давай вызначымся ў тэрміналогіі. Модэрн арт ды кантэмпарэнт арт, — які з гэтых двух айсбергаў (пры пэўным моўным сінанімічным значэнні) адкалоўся ад мастацкага мацерыка разам з вамі?**

— Ну, я б не казаў пра айсберг і адколванне. Кантэмпарэнт, які мы прадстаўляем, трымаецца на грабяні самай высокай хвалі эксперыменту. Таго, што рухае мастацтва далей. Не ўперад, бо гэта і банальна, і неpraўдзіва (рухі і цыклічныя, і лінейныя, і спіральныя, і ўсялякія, але класіфікаваць іх мне цяжка).

**— Прынамсі гэтыя рухі-зрухі — ад вядомага, традыцыйнага, устойлівага... Не будзем спасылацца на пэўную банальнасць: самае жыццё банальна ўзнікае і банальна знікае ў тысячах паўтораў.**

— Але нас цікавіць і вабіць толькі эксперымент. Людзі, якія сёння ды ўчора скончылі, скажам, нацюрморты ды краявіды, часцяком маюць прэтэнзіі да нас. Раз, маўляў, мы — сучаснікі, дык робім — сучаснае. На гэта мы адказваем: па памяранцы або цытрыны вы ў гаспадарчую краму не ходзіце. Сучаснае мастацтва — гэта мастацтва хворых людзей. Ім перш-наперш баліць слава. А толькі потым, дзесьці — грошы. На камерцыйны поспех мы, хворыя, свядома не разлічваем. Толькі незаможныя людзі заўжды рухалі (пасляхова) сучаснае мастацтва. Часам яны рабіліся заможнымі, але як толькі гэта здаралася, яны каналі як эксперыментатары. Таму што адразу траплялі ў мастацкі рынак: свае фінансы мацуюць ды ўзбуйняюць за кошт уласнага імя, зробленага або заваяванага ў галечы, у жабрацтве або незаможнасці сучаснага мастацтва. З гісторыі я ведаю вельмі мала асобаў, чый эксперыментатарскі геній перапрываў паспяхова фінансавы ўціск.

**— А як вы вызначаецеся ў часе і прасторы? На каго раўняеце ваш рэвалюцыйны крок?**

— Наша стагоддзе скаланулі два рэвалюцыянеры: Марсэль Дзюшан і Казімір Малевіч. Першы пераканаў публіку, што да самага звыклага, ужытковага прадмета ("прадмета, падрыхтаванага да спажывання") можна ставіцца як да мастацкага. Дзюшан увогуле адметны тым, што зрабіў па адной буйной рабоце на кожную мастацкую галіну. Ну а Казімір Малевіч са сваёю геаметрыяй супрэматызму ды "Чорным квадратам" і пагатоў не вымагае каментару.

**— А чаго так бракуе сучаснікам-традыцыяналістам?**

— У сучасным мастацтве — тым, якім займаемся мы, — перадусім трэба... умець пісаць па паперы асадкаю. Гэта значыць — пераканаўча выкладаць свае думкі, па-філасофску ставіцца да сваіх занятакаў... І распаўсюджваць гэтую філасофію наўкола. Простым і адзіным бачным шэрагам у выяве (праекце) не пераканаеш. Найбольшую цану мае не прыгажосць выявы, а прыгажосць ідэі. Чалавецтва развілося, змянілася. Чалавек відавочна атрымлівае асалоду ад думак пра тое, як можна было дадумацца да падобнага чалавечага развіцця, як можна было яго даўмецца або дасягнуць.

**— Груба кажучы, найлепшымі выставамі стаюцца крамныя вітрыны, — гэта, здаецца, ужо з класікі філасофіі сучаснага мастацтва? А чаго ты дамагаешся ад самога сябе?**




— Сумясціць глыбокі філасофскі доследз пераканаўчым выяўленчым шэрагам. Ні дадаць, ні адкінуць, ну проста мара ўсяго чалавецтва, так? І так, каб гэты візуальны шэраг разумеў і пралетарый, і паэт, і бізнесмен.

**— Ты не настойваеш на выключнасці, выбітнасці (з шэрагу) сучаснага мастацтва? Не маеце на ўвазе ягоную грубаватую элітарнасць?**

— Мы ўвогуле скептычна ставімся да эліты. Не падзяляем пераканання, што мастак — Богам абраная істота. Як правіла, гэткім чынам мяркуюць або самі мастакі, або мастацтвазнаўцы, якія з імі сябруюць.

**— Вы зацемілі, што геній — гэта перадусім праца, праца штодзённая, карпатлівая, няўдзячная і да т.п.?**

— Але. Аднойчы Ігар Дабралюбаў, наш знаны рэжысёр, адметна пракаментаваў адну творчую імпрэзу, маўляў, першае сваё кіно можна зрабіць геніяльна, а вось ты паспрабуй, зрабі другое! Другая стужка, іншымі словамі, выявіць цябе самога як мага! Дарэчы, і твой кошт, і тваю каштоўнасць. Так атрымліваецца само па сабе...

**— А хто ацэньвае вас?**

— Рэйтынг, густ, асобы. Маскоўскі мастацтвазнаўца і куратар Віктар Мезіяна (цяпер паводле рэйтынгу Масквы ён займае першае месца, а ў Маскве — гэта значыць па ўсім былым СССР, бо менавіта Масква засяродзіла цяпер самае вартае ўвагі сучаснае мастацтва, нават піцерская школа — свойская, пэўна местачковая і можа разглядацца як частка маскоўскай). Мезіяна меў неасцярожнасць запрасіць нас з Васілём Шугалеем "шашкамі памахаць" на Трэцяе міжнароднае біенале сучаснага мастацтва ў Стамбуле (1991). Беларусь мы там прадставілі ўпершыню і дастаткова сур'ёзна. Там, прыкладам, браў ўдзел Кім Левін, вядучы аглядальнік "Артэн Амэрыкэн" і "Флэш арт" (вядучых часопісаў сучаснага мастацтва), калекцыянер Людвіг, Крыгс Эрнст, уладальнік самай прэстыжнай еўрапейскай галерэі. Там, прыкладам, выстаўляўся тады Крысціян Балтанскі (паводле рэйтынгу — ён чацверты мастак Еўропы), або Даміен Хірст, які названы пазалетась мастаком — адкрыццём года. Гэтыя варункі нас крыху збянтэжылі: наш сур'ёзны па тутэйшых (нашых) мерках праект не тое каб распусціўся ў прасторы, але, мовім так, там нічым найвыбітным не выбіўся, нічым найвылучным не вылучыўся. Хірст ды Балтанскі выглядалі куды мацней. Дарэчы, пасля Стамбула мы добра сабе зацемілі: ніколі не запрашаць да ўдзелу ў адным праекце людзей, мовім так, розных вагавых катэгорыяў, а то і вясельных генералаў. Гэта, дарэчы, супярэчыць і сучасным тэндэнцыям...

**— І заблытвае гледача. Магчыма, што і — канчаткова.**

— Вядома! Акрамя таго, выступаць у розных вагавых катэгорыях бывае проста небяспечна. Побач з людзьмі, што пабылі і на кані, і пад канём, маладзёны выглядаюць неабстралянымі і часам выдаюць несамавітасць...

**— Але што прыдумалі дзеля аб'яднання катэгорый ды вагаў у вашым цэнтры? Немагчыма ж зладзіць пятнаццаць выстаў запар дзеля адной скупой пані ідэі...**

— Найпрымальная — гэта ідэя фестываляў. Але — не выстаў. Музеі, галерэі, салоны, буйныя выставы — сёння мастацтва на сконе. Яно нікуды не кліча і нікуды не вядзе. Яно не ўзрывае постмадэрнізм. Аніяк не можа ні ўплываць на варункі ды акалічнасці, або мяняць іх. Галерэі ды салоны проста дагаджаюць свайму гледачу, а некамерцыйныя галерэі намагаюцца без грошай, без прыдатнага памяшкання (часам і без вартых спецыялістаў) зладзіць эксперымент, які асуджаны. Да шырокага гледача ён не дойдзе. А глядач вузкі ўсё адно як свойскі. Самая перспектыўная мадэль сёння — гэта цэнтры сучаснага мастацтва або выставачныя залы, якія падтрымліваюць, або ўтрымліваюць, мовім так, дэпартаменты, фонды і да іх падобныя. Гэтыя месцы, бадай, самыя зручныя і з самым гучным розгаласам. Плюс — пастаянныя грошы і прагрэсіўная публіка.

**— Ваша задача?**

— Узарваць сітуацыю, — як бачыш, мы не вылучаемся з шэрагаў прадстаўнікоў найсучаснага... Падставовым для нас сталася патрапленне, ушткоўванне, калі хочаш, ва ўсе віды мастацтва і ўтварэнне там рэвалюцыйнай сітуацыі. Калі нізы не хочуць, а вярхі не могуць. Наша першае, мовім так, уварванне — у тэатральнае мастацтва. Мы зладзілі ў Мінску гастролі трупы Барыса Панізоўскага. Па Еўропе ён сабраў не адзін дзесятак прызоў, трапіў у тэатральныя хрэстаматыі. Спектакль, які Панізоўскі прывёз да нас, адметна абнаўляўся трыццаць восем разоў!

**— Ты можаш ацаніць яго як сцэнограф?**

— Перадусім убачыў пацверджанне сваіх ідэй. Горка, што іх у свой час не запатрабавалі нашы беларускія рэжысёры. А тэндэнцыя сцэнаграфічнага вырашэння скіравана на пустыя прасторы, пустэльныя павільёны, ад чыёй пустэчы нараджаецца адметны эфект... Мо напачатку і акцёру ў такіх прасторах нязручна працаваць, але ён, асвойтаўшыся (я ў гэтым перакананы), добра разумее свае выгоды. А ў нас пакуль пануе сцэнічная гульня... у схованку: як лацвей схаваць выканаўцу за дэкарацыю, бутафорыю, рэквізіт, святло. Гэта не вядомы "голы чалавек на голай сцэне". Гэта — чалавек ва ўзаемадзеянні з пэўнымі прадметамі, значнымі прадметамі.

*(Заканчэнне на стар. 4,5)*

*СІТУАЦЫЯ*

# "ЧАГО ПЛАЧА НАТАША?"

Шмат было клопатаў, калі ў Пінску адкрывалася вучылішча мастацтваў — адкрывалася ў той час, калі многае пачало разбурацца. Спачатку адваявалі памяшканне, потым вырашылі кадравыя і гаспадарчыя пытанні, потым... Словам, гэтых "потым" хапала на кожным кроку. І вось ужо адбыліся 2 выпускі "харэаграфічных ластавак", якія разляцеліся і працуюць па ўсім Палессі, 10 з іх паступілі ў ВНУ па спецыяльнасці.

Не за гарамі першы і, як я разумею (крый Божа!), апошні выпуск музычнага аддзялення. Даведаўся я аб гэтым ад сваёй дачкі Наташы, якая заплаканая сустрэла мяне са словамі: "Тата, а што ж мне цяпер рабіць, як будзем вучыцца, калі зачыняць музычнае аддзяленне? Кажуць, што грошай не хапае!"

Для агульнага ўяўлення трэба сказаць , што Наталля вучыцца ў 4 класе першай музычнай школы па класе баяна. Дыпламант конкурсу імя Жыновіча. Не менш удала выступіла на II Дзіцячым Міжнародным фестывалі "Пралескі", зараз рыхтуе складаную праграму на конкурс, які адбудзецца у г. Баранавічы. Другі год бярэ кансультацыі ў педагога Валерыя Камісарчука ў вучылішчы мастацтваў. І сапраўды, ужо 2 гады паўстае пытанне аб закрыцці музычнага аддзялення, што ўжо расхвалявала не толькі педагогаў і бацькоў, але, як Вы зразумелі,і дзяцей.

Я ўжо меў "асалоду" вучыць у адным з вучылішчаў Рэспублікі Беларусь старэйшую дачку. Я добра ведаю, што такое цяпер здымаць кватэру, як цяжка купіць музычны інструмент і знайсці грошы на жыццё ў Мінску ці Брэсце. Зараз жа нашы палескія дзеці могуць больш пасляхова вучыцца і жыць амаль што дома. А дома, як вядома, і сцены дапамагаюць. Тым больш, што вучылішча хоць і маладое, але ўжо заслужыла ў насельніцтва павагу.

Выбачайце, а на колькі мы прайграем у выхаванні, адлучаючы дзяцей ва ўзросце 16 гадоў ад сям'і?

Цяпер, паважаныя кіраўнікі ўрада, Міністэрства культуры, паглядзім з іншага боку. Палессе — гэта незвычайны цудоўны край, край добрых і працавітых, але ў большасці сваёй збяднелых людзей. Край, дзе так беражліва захоўваецца музычная і фальклорна-энтаграфічная спадчына нацыі. Прыкладам таму — І Міжнародны фестываль фальклору ў г. Пінску, заключны канцэрт фестывалю заходне-палескай песні "Етвызь-94", мноства канцэртаў па ўсім рэгіёне народнага ансамбля "Пінская шляхта" з вучылішча, якім кіруе Валеры Камісарчук. На Палессі многа даравітых дзяцей. У адным толькі Пінску дзве музычныя школы, а яшчэ ж побач Столін, Іванава, Лунінец, Мікашэвічы, вясковыя музычныя школы. З жыццёвай практыкі ведаю, што ў большасці людзей няма магчымасці вучыць дзяцей у якім-небудзь элітарным вучылішчы ці каледжы ў сталіцы.

Было б памылкова не ўлічыць і стан здароўя нашых дзяцей, вымушаных жыць у складанай экалагічнай сітуацыі...

Трэба памятаць і пра тое, што дзеці палешукоў тут і застануцца жыць і працаваць, бо тут іх малая радзіма, тут жылі іхнія продкі. З Мінска і Брэста спецыялісты сюды звычайна не даязджаюць. Гэта абсалютна зразумела.

Музычнае аддзяленне ні ў якім разе не трэба ліквідаваць, наадварот, трэба думаць, як выпрацаваць праграму музычнай асветы не толькі нацыянальнага маштабу, але і рэгіянальнага. Удзельнічаць у яе распрацоўцы абавязкова павінны Акадэмія музыкі, Універсітэт культуры, Інстытут праблем культуры.

Куды разумней будзе, калі ўсе разам падумаем і дапаможам педагагічнаму калектыву вучылішча лепш злучыць музычны і харэаграфічны жанры з улікам мясцовых асаблівасцяў, каб з цягам часу пераўтварыць вучылішча ў каледж нацыянальнага мастацтва. Без музычнага аддзялення такая навучальная ўстанова існаваць не можа. Трэба памятаць, што другога Палесся, такой самабытнасці мовы, людзей у Беларусі і ў свеце больш нідзе няма.

Трэба падумаць і аб тых сродках, за якія можна было б пабудаваць інтэрнат, у якім маглі б вучыцца не толькі здаровыя дзеці, але і хворыя таленавітыя дзеці з радыяцыйна забруджаных тэрыторый рэгіёна. Тым больш, што Пінск як сталіца Палесся мае радыяцыйна-дыягнастычны цэнтр.

Скажу без ваганняў, што я выказваю не толькі свае думкі, але і думкі ўсіх бацькоў, дзеці якіх цягнуцца да гэтага загадкавага цуду свету — музыкі.

Хочацца верыць, што пачуюць нас, палешукоў, у дзяржаўных палатах, дапамогуць фінансаваннем, увагай, метадычнай літаратурай і г.д.

Хочацца, каб не калечылі душы і сэрцы дзяцей, каб не плакалі дзеці іншых бацькоў, як плача зараз мая Наташа, каб у яе была вера і магчымасць ажыццявіць сваю мару.

**Міхась ЛІНКЕВІЧ**

Пінск

КАНТРАМАРКА

# МОЖНА ЎСЁ?

## ПАЛЕМІЧНЫЯ НАТАТКІ ГЛЕДАЧА

*"Калі валодаеш поўнай свабодай, належыць прытрымлівацца меры."*
**Віктор ГЮГО**

У мастацтве не існуе разумення "нельга". Можна ўсё. І гаворка ідзе не пра ўседазволенасць ці разбэшчанасць, а пра тое, што мастак вольны ў працы прыцягваць любыя сродкі і прыёмы свайго мастацтва дзеля дасягнення патрабуемага эфекту ўздзеяння. Іншымі словамі, ён павінен прымусіць гледача, чытача, слухача адчуваць менавіта тое і менавіта ў тых месцах твора, дзе гэтага жадае мастак. Але шляхі дасягнення такога валодання пачуццямі адрасата ў розных відах мастацтваў могуць быць рознымі. Пісьменнік сам-насам з чыстым аркушам паперы толькі словам спрабуе выклікаць у чытача эмацыйны водгук на прачытанае. Мастак колерам, кампазіцыяй, манерай адлюстравання ўплывае на асацыятыўнае мысленне гледача. Рэжысёр музычнага тэатра мае ў сваім арсенале значна больш: словы драматурга, музыку кампазітара, дэкарацыі і касцюмы мастака, жывых персанажаў — акцёраў, сродкі выразнасці якіх таксама шырокія.

Гэтая, здавалася б, неабмежаванасць хавае ў сабе шэраг аб'ектыўных небяспек. Музыка, самае абстрактнае і "бесцялеснае" з мастацтваў, звяртаецца непасрэдна да пачуццяў чалавека і самым кароткім шляхам дасягае нашай свядомасці. Загучала музыка, і мы адразу можам адказаць: падабаецца-не падабаецца, прыемна-непрыемна. Літаратура апелюе да інтэлекту чытача, выклікае ў яго асацыятыўнае мысленне, памяць, закадзіраваныя перажыванні мінулага. А тэатр, кіно, тэлебачанне прапануюць гледачу практычна гатовы прадукт: сюжэтная сітуацыя вось такая, музыка — гэтакая, касцюмы і дэкарацыі цалкам прадметныя, а герояў адлюстроўваюць канкрэтныя жывыя людзі.

З усяго гэтага матэрыялу рэжысёр павінен умець пабудаваць такое дзейства, так дазіраваць мастацкія магчымасці і выбраць такія пастановачныя прыёмы, каб глядач зразумеў і адчуў тое, што яму хацелі сказаць. На мой погляд, пастаноўка оперы "Рыгалета" ў канцы мінулага сезона насуперак праграмным заявам рэжысёра і нястрымана захопленай крытыцы не стала вялікай мастацкай падзеяй у тэатральным жыцці Мінска.

Супярэчны вынік пастаноўкі нібы прадыктаваны самой гісторыяй оперы. Пасля таго як Віктор Гюго атрымаў ад дырэктара тэатра Французскай Камедыі запіску: "Зараз палова адзінаццатага, і я ў гэты момант атрымаў загад спыніць паказ "Кароль забаўляецца". 23 лістапада 1832 года", — ён выступіў у шырокім друку са сваёй трактоўкай драмы. "Трыбуле — урод, Трыбуле — немачны, Трыбуле — прыдворны блазан: патройнае няшчасце зрабіла яго злосным. Трыбуле ненавідзіць караля за тое, што ён кароль, вяльможаў — за тое, што яны вяльможы, людзей — за тое, што не ва ўсіх у іх горб на спіне. Яго адзіная забава — бясконца сутыкаць вяльможаў з каралём, ламаючы больш слабога аб больш моцнага. Ён разбэшчвае караля, псуе яго, распальвае ў ім агідныя пачуцці. Ён штурхае караля да тыраніі, да невуцтва, да распусты. Кароль — усяго толькі паяц у руках Трыбуле, усемагутны паяц, які калечыць жыцці, а блазан — толькі торгае за ніткі", — гэтак пісаў раз'юшаны аўтар пасля забароны яго драмы. Праз трыццаць гадоў, у час працы над сваім "Рыгалета", Джузепе Вэрдзі сцвярджаў, што сюжэт оперы з'яўляецца лепшым з усіх, пакладзеных ім на музыку: "Тут ёсць моцныя сітуацыі, разнастайнасць, бляск, пафас. Усе падзеі абумоўлены легкадумным і пустым характарам герцага. Жахі Рыгалета, захапленне Джыльды ствараюць цудоўныя драматычныя эпізоды".

Розніца паміж задачамі драматурга і рашэннем кампазітара відавочная. Палітычны пратэст раз'юшанага В.Гюго і аніякай палітыкі ў "драматычных эпізодах" Дж.Вэрдзі . У сувязі з гэтым паміж аўтарамі ўзніклі пэўныя непаразуменні. Супярэчнасць паміж драматургіяй і музыкай амаль праз паўтара стагоддзі падкрэслілі ўвесну 1994 года стваральнікі спектакля "Рыгалета" ў Вялікім тэатры Беларусі.

"Нават герцаг для мяне не такі небяспечны, як Рыгалета, — сцвярджае рэжысёр-пастаноўшчык Юры Аляксандраў. — Гэта нармальнае зло, яно вельмі прывабнае. А Рыгалета — СНІД чалавечай свядомасці, страшная неабарачальная хвароба. І ніякая музыка, нават самая прыгожая, не можа "ўратаваць яго..."

Музычны кіраўнік і дырыжор тэатра Аляксандр Анісімаў лічыць інакш: "Галоўнае для нас — данесці думку кампазітара, яго этычную і эстэтычную ідэі". Заўважце, рэжысёр бліжэй да драмы, дырыжор — да музыкі. Такая дваістасць у пазіцыях першых асобаў не магла не адбіцца на цэласнасці спектакля, яго завершанасці і шэрагу спрэчных мастацкіх рашэнняў. Спрэчнасць пастаноўкі заключана не толькі ў бясконцых "перацягваннях коўдры" паміж музыкай і драматургіяй.

Згадаем хрэстаматыйную пастаноўку "Жаніцьбы" ў тэатры "Калумб" Ільфа і Пятрова. Навізна і авангардызм засланілі не толькі Гогаля, але і цвярозы розум. Нешта падобнае адчуў і мінскі глядач. Найперш, ён збянтэжаны ад звышарыгінальнасці сцэнаграфіі: пад вуглом пастаўленыя плоскасці, разрэзаныя дзесяткам-паўтара дзвярэй. Што ж гэта азначае? Уражанне такое, што ўсе грошы пайшлі на цудоўныя касцюмы, а на дэкарацыю нічога не засталося. Мастак сам вольны выбіраць сродкі ажыццяўлення сваёй задумы, але пытанне "навошта"? таксама павінна прысутнічаць у ягонай працы. У дадзеным выпадку на пытанні мусіць адказваць глядач.

Навошта, напрыклад, беларускія выканаўцы спяваюць па-італьянску? "Пранікненню ў таямніцы оперы нам дапамагае мова арыгіналу", — адказвае ў праграмцы дырыжор. Магчыма, калектыву-стваральніку гэта сапраўды дапамагло пры падрыхтоўцы спектакля да замежнай паездкі. А нашаму гледачу як быць? Толькі веданне кароткага зместу і музыка дазваляе здагадвацца, што адбываецца на сцэне. Ды і то не заўсёды. Мноства дзвярэй і бясконцыя ўваходы-выхады, выглядванне-заглядванне збіваюць з панталыку не толькі гледача, але і саміх акцёраў.

Прымат музыкі ў оперы відавочны. Але прыблізныя акцёрскія прыстасаванні і неабавязковыя мізансцэны, аднастайныя сцэнічныя рашэнні, якія адлюстроўваюць "загану", не прыхаваць музыкай. У гэтым можна пагадзіцца з пастаноўшчыкам спектакля. Напрыклад, на працягу самага насычанага дзеяннем апошняга акта, дзе сцэны ідуць адна за адной, ля левага партала амаль нерухома стаіць Джыльда. У чым тут арыгінальнасць рэжысёрскага рашэння? Спявачка пакорліва чакае ў кожнай новай сцэне сваёй партыі, а яе гераіня знаходзіцца, пазодле сюжэту, за мурамі прытона Спарафучыля, на вуліцы. Вось з'яўляецца Герцаг са сваёй папулярнай песенькай, ідзе квартэт Герцага, Мадалены, Джыльды і Рыгалета, затым любоўная сцэна Герцага і Мадалены, дуэт Мадалены і Спарафучыля, а Джыльда ўсё стаіць і стаіць на месцы, якое ёй паказаў рэжысёр. Узнікае пытанне, ці магчыма такую пастановачную знаходку разглядаць як удалую?

Герцаг — носьбіт зла: бяздумнага, бяздушнага, бліскучага зла. І дзеля таго, мабыць, каб сучаснікі глыбей адчулі чорнае бяздонне яго душы, стваральнікі надаюць яму знешняе падабенства з вядомым сёння лідэрам сексуальных меншасцяў, "эпатажнікам" Барысам Майсеевым. У выкананні С.Франкоўскага ён менавіта такі: доўгая пунсовая накідка, пад ёй нешта на брэтэлях, высокія бліскучыя боты, двухтыднёвая чорная барада і светла-русая шавялюра.

Асобна стаіць работа Н.Галеевай. Шчодрая прырода надзяліла яе гнуткім прыгожым голасам і талентам драматычнай актрысы. Ёй падуладныя тонкія нюансіроўкі і рэзкія арганічныя змены настрояў гераіні. Яна ўпэўнена вядзе партыю, вольна адчувае сябе ва ўмоўнай прасторы. Вялізны, статуарны Спарафучыль пераканаўчы і страшны, хаця моц пачуццяў А.Мельнікаў даносіць найперш у вакальных партыях.

"Калі я змог хаця б заявіць гэту тэму (Рыгалета — канцэнтраваная подласць, двурушнасць, цынізм. — В.К.) у спектаклі, я буду лічыць, што выканаў сваю задачу", — упэўнены рэжысёр пастаноўкі. Мне здаецца, што ён "заявіць змог", але "задачу не выканаў". Чаму так атрымалася — гэта тэма іншай размовы. Ці трупа не пайшла за рэжысёрам, ці музыка і драматургія так і не дамовіліся паміж сабой, а пастаноўшчыкі не знайшлі формы іх "прымірэння", ці ўся старанная праца па выхаванні вакалістаў у нас пабудавана аднастайна і культура голаса як бы выбачае бескультур'е сцэнічнага дзеяння оперных спектакляў?

Безумоўна, у "Рыгалета" А.Анісімава і Ю.Аляксандрава больш парадку на сцэне і больш выканаўчай дысцыпліны, чым, да прыкладу, у "Іаланце" ці ў "Севільскім цырульніку",дзе акцёры наогул аддадзены самім сабе, групамі і па аднаму без нейкай рэжысёрскай мэты блукаюць па сцэне. Музычны тэатр — гэта, канешне, музыка, але яшчэ і тэатр таксама! А які тэатр без акцёра?! У чым навізна пастаноўкі, калі 160 гадоў таму аўтар менавіта так, як заяўлена ў праграмцы спектакля, і трактаваў сваю драму?

**Віктар КАЛАШНІК**

# КАМУНІЗМУ НІКОЛІ НЕ БУДЗЕ

## МАСТАЦТВА ДЛЯ ХВОРЫХ ЛЮДЗЕЙ ЗААХВОЧВАЕ МЫСЛЯРСТВА

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 3)*

**— Паяднаўся тэатр прадмета, лялькі і аніматара?**

— Прыкладна. Тое, што намагаецца рабіць Аляксей Ляляўскі, які падаецца мне самым радыкальным, сучасным рэжысёрам.

**— А куды кіравалася вашае наступнае ўварванне?**

— У кіно. Фестываль вуснага кіно мы правялі з поспехам. Вуснага, вуснага, — ну, пра якое апавядаюць, а не паказваюць. Зняў чалавек сам сабе ў галаве (сваёй) кіно і распавядае, прабач, апавядае яго публіцы. Не сюжэт. Усю тэхналогію. Цітры, планы, наезды, дыялогі... Цяпер гэты праект запрошаны ў Маскоўскі цэнтр сучаснага мастацтва, — для далейшых пошукаў і папулярызавання.

**— А хто аўтар вынаходніцтва?**

— Нашы. Беларускі паэт Дзмітрый Строцаў і Ігар (Міцёк) Корзун.

**— Але ж на галіну кіно вы, здаецца, уселіся трывала? 5 лістапада 1994 фестываль "Невядомае кіно Гагарына" ўразіў нават мінчукоў на шпацыры ля парка Горкага. Спачатку вы адчынялі помнік Цыялкоўскаму...**

— Ага, які ўжо даўно адчынены. Нашым намаганнем сталася прыцягнуць да яго — да асобы Цыялкоўскага, — як мага пільнейшую ўвагу. Помнік адчынялі чатыры іншапланетнікі і сам Ю.Гагарын, пасля чаго ён сам і ад'ехаў у адкрытым аўто... Да конкурсу ў ДК МТЗ. Конкурс даў пераможцаў. Васіля (Гагарына) Пачыцкага, глуханямога рэжысёра з Гомеля Уладзіміра Нікіціна (фільм "Звычайны дзівак Мячыкаў" — пра сялянскага мужыка, які вынайшаў аэраплан і сам на ім лётае), а першым быў аніматар Міхаіл Тумеля з "Рысаю" ды "Адною хвілінаю". Асабіста мяне ўразіла стужка памяці пра Вялікую Айчынную, — гэткая кампіляцыя матэрыялаў пра таталітарныя рэжымы. Гукавы шэраг вызначыў "Левы марш" Маякоўскага, — яго спявалі па-нямецку... Вынікам стаўся гэткі адметна-павярхоўны (без крыўдаў!) гістарычны доследі Дарэчы, старшынёю журы быў чалавек традыцыйных поглядаў, які добра нас разумее: Ігар Дабралюбаў. Ён, між іншым, прапанаваў зладзіць гэткі самы кінафэст у зале Саюза кінематаграфістаў — з разлікам на выбух. На той самы выбух, які так даспадобы нам. Ігар Міхайлавіч пасля ўсяго запрасіў мяне прачытаць спецкурс па галерэях сучаснага мастацтва для сваіх студэнтаў — Акадэміі мастацтваў.

**— Ну, калі мы ўсё пра захопы, уварванні ды выбухі, дык якім гвалтам вы ўваходзілі ў самае сучаснае мастацтва?**

— У ягоны вышэйшы эшалон мы намагаліся ўскочыць са сваёю конкурснаю праграмаю "Нецэзіўдзік".. Не палохайся, гэта слоўка з валяпюку, або з навамоўя кшталту оруэлаўскага. Канцэпцыя і пераклад — "лішні". Лішніца. Самі мастакі — лішнія стваральнікі лішніх ідэй. Іхнія праекты — лішак для выставы. У самым праекце — абавязковы залішні прадмет. Уся праграма была заснаваная на супярэчанні і супрацьстаянні постмадэрнізму. Калі той прапануе іронію, мы настойваем на абсалютным сур'ёзе. Постмадэрнізм цытуе, мы арыгінальнічаем. Там — весялосць і гульба, пагулянне, тут — прапаганда і самарэклама. Падстава — гэтак званая намі эстэтыка вэрхалу (скандалу). Дарэчы, сам ідэолаг-эстэт, Анатоль Асмалоўскі, яе потым адкаснуўся. А ягоныя наступнікі дайшлі да эстэтыкі вэрхалу з абмеркаваннем. Да вэрхалу, які вымагае абавязковага абмеркавання. На падставе вэрхалу трымаецца і дыспут у кантэксце сучаснага мастацтва.,

**— "Шумім, братка, шумім!"?**

— Скандалім. Згадаў фотаздымак, дзе на фоне спаленага Белага



Дома ў Маскве стаяць людзі са спушчанымі штанамі і аголенымі мужчынскімі месцамі. Ён прыцягвае сваім вэрхалам і змушае па-іншаму зірнуць нават на палітычную сітуацыю.

**— Зважым тады на веданне кантэкстаў, на разуменне падтэкстаў.**

— Але ж сучаснае мастацтва займаецца палітыкай рыхтык як усім астатнім. Скажу больш. Як правіла, тыя людзі, якія займаюцца сучасным мастацтвам, маюць вельмі пэўныя, акрэсленыя палітычныя погляды, прыкладам, віцебскі мастак і сцэнограф А.Салаўёў, які развівае ідэі Кандзінскага, Урубеля... Я бачыў ягоныя макеты і эскізы, пасняхова адсечаныя мастацкаю радаю тэатра ад увасаблення: куды да іх таму, што потым гнедзілася на сцэне! Вось Салаўёва проста не цікавіць ніякая палітыка. Не ведаю, ці згадвае ён часам, хто ж у нас прэзідэнт. Бо Салаўёў — самакаштоўны.

**— А як жа з уварваннем куды б там ні было?**

— Спакой уварванню не замінае. Адносны. У Маскве падчас чэмпіянату свету па футболе ў Цэнтры сучаснага мастацтва збіраліся мастакі з адною ўхвальнаю мэтаю: глядзець футбол. А Юрый Лідэрман, якога мы ў нас выстаўлялі ў 1992 годзе, перад кожным матчам замахваўся на лекцыю. Пра футбол і размаітасці камбінацый, пра палітыку тых дзяржаў, якія прадстаўлялі свае каманды... Як па мне — дык гэта ўвасабленне сучаснага мастацтва. Ягоным аб'ектам робіцца ўсё, што трапляецца. І палітычная постаць, і паненка з вяслом. Што больш за ўсё раздражняе мастакоў-традыцыяналістаў? Мастак-"сучаснік" можа абраць любую, нібыта забароненую галіну, тэму (табуяваную зону), хоць сабе гомасэксуалізм, інцэст, забойства жывёлаў і на іхняй падставе стварыць праект — проста дослед у абвешчанай тэме, галіне.

**— Дослед чым адметны?**

— Сваёю агульнасцю. (Не абагульненасцю). Але ж менавіта яна, агульнасць, і раздражняе. Бо шмат хто ўжо забыўся думаць (во хвароба!). Шмат хто толькі глядзіць. Спажывае. Так прасцей — з'еў-не з'еў, а ў роце нібы патрымаў, плюнуў або каўтануў, — і нічога больш не хвалюе. Сучаснае мастацтва выяўляецца якраз наймоцным пунктам погляду на любы працэс. Сучасны мастак падбірае тэмы з-пад ног і хапае з паветра...

**— Старая спрэчка, што з'яўляецца, а што не з'яўляецца прадметам для мастацтва, сучаснымі мастакамі вырашана на карысць... прадмета ўвогуле?**

— Ну. Але ж гэта — не дылетанцкія закіды. Гэта — глыбока абдуманы ды абгрунтаваны пункт гледжання. Людзі, што займаюцца сучасным мастацтвам, ніколі не выказваюць свае меркаванні проста з моста. Яны паруп
яцца і пра кантэкст (сваёй творчасці ды светаўспрымання), і пра пэўную нагоду. Мне лёгка грамадавацца з сучаснымі мастакамі з аднае пры-

КАНТРАМАРКА

# ВЫСАКАРОДНАЯ АКЦЫЯ ТЭАТРА "ДЗЕ — Я?"

Яшчэ на самым пачатку сезона мастацкі кіраўнік Мінскага муніцыпальнага тэатра драмы "Дзе-Я?" Мікола Трухан задумаў правесці незвычайную і ў вышэйшай ступені высакародную акцыю. Сутнасць яе заключалася ў тым, каб паказаць спектаклі дзецям, жыццё якіх фактычна абмежавана сценамі спецшколы ці школы-інтэрната. Ні тлумачэнняў, ні тым больш пярэчанняў сама па сабе гэтая думка не выклікала. Існавала толькі адна праблема — дзе ўзяць сродкі на паездку?

І вось нарэшце гэтае пытанне, якое здавалася ўсё больш рытарычным, знайшло сваё канкрэтнае вырашэнне. Пры дапамозе і фінансавай падтрымцы Фонду Сораса — Беларусь распрацоўваецца цэлая праграма, згодна з якой тэатр "Дзе-Я?" атрымлівае магчымасць наведаць спецыялізаваныя дзіцячыя ўстановы па ўсёй Беларусі.

На сёння завершаны першы этап. Тэатр праехаў па Магілёўскай і Гомельскай абласцях: Бялынічы — Шклоў — Магілёў — Чавусы — Жлобін — Рэчыца — Петрыкаў. За дзесяць дзён вандроўкі пераадолена больш за 1,5 тыс. кіламетраў шашэйных дарог. Сыграна каля трыццаці спектакляў. Рэпертуар складалі дзве пастаноўкі — "Чорт і Баба" Ф.Аляхновіча і "Зачараваная прынцэса" Б.Сударушкіна.

Асноўная нагрузка выпала, зразумела, на "Зачараваную прынцэсу". Калі камедыя "Чорт і Баба", якая мае пэўныя ўзроставыя абмежаванні, разыгрывалася ў асобных выпадках, дык казка цікавіла дзяцей і дарослых, вучняў і настаўнікаў. За прыгодамі Гаршэчніка — Алега Радкевіча і Начальніка каралеўскай варты — Валерыя Агаяна пільна і з захапленнем сачылі ўсюды: у школах для зусім сляпых і з дрэнным зрокам, для глухіх і тых, хто амаль не чуе, для дзяцей-сірот і дзяцей з замаруджаным псіхічным развіццём. Нават у спецшколе для малалетніх злачынцаў, што "схавалася" пад назвай "для дзяцей і падлеткаў, якім патрэбны асаблівыя ўмовы выхавання", сцэнічная казка атрымала жывы, непасрэдны водгук гледачоў.

Пачынаючы казку, Фея — Галіна Чарнабаева называла цудам ужо тое, што тэатр прыехаў да дзяцей. Яно так: кожны раз, куды б ні завіталі, сустрэча з тэатрам станавілася для іх сапраўдным святам. Большасць гледачоў упершыню ўбачыла жывых артыстаў, тэатральную дэкарацыю і асвятленне, упершыню пачула слова "спектакль".

Цудам станавілася тая радасць, ад якой літаральна свяціліся дзіцячыя тварыкі! Дыханне перахапіла ў акцёраў, калі маленькі хлопчык раптам працягнуў ім сваю цукерку: маўляў, бярыце, яна смачная, з павідлам... Ці калі ў Васілевіцкай школе для дзяцей-сірот на развітанне дзяўчынкі праспявалі сваю любімую песню "Родительский дом"...

Найвялікшую павагу выклікае калектыў аднадумцаў, які аб'яднаў сп.Трухан дзеля выправы ў нялёгкі шлях. Акцёры, гукааператар, асвятляльнік, рабочыя сцэны, касцюмёр, рэквізітар — усяго 15 чалавек — дзень пры дні здзіўлялі сваёй самаадданасцю і, скажам, несучасным энтузіязмам.

У якіх толькі ўмовах не даводзілася выступаць! Сцэна бывала настолькі маленькая, што на ёй ледзь умяшчалася кампактная дэкарацыя. Гралі і ў спартыўных залах, без аніякай сцэны, пад баскетбольным кошыкам. Іспыты на стойкасць ладзілі яшчэ і маразы — выбраліся ж якраз на Вадохрышча.

Аднак галоўнае выпрабаванне — гэта эмацыянальна-псіхалагічная атмасфера розных спецшкол. Да сэрца беручы ізаляванае становішча дзяцей, асабліва ў вёсках, шкадавалі ўсё ж такі аб адным. Шкадавалі, што амаль не заставалася часу для прамога кантакту, непасрэднай размовы з хлопчыкамі і дзяўчынкамі, да якой яны заўсёды так імкнуліся.

Тэатр "Дзе-Я?" ў гэтай сваёй акцыі выявіўся як адметны творчы арганізм. Сцэнічнае адчуванне партнёра злілося ў ім, зніталася з чалавечым пачуццём локця. Трэба думаць, што наступныя маршруты па Гродзенскай, Брэсцкай і Віцебскай абласцях яшчэ не раз гэта пацвердзяць.

**Ала САВІЦКАЯ**

# СВЕТ СТАНЕ ЛЕПШЫМ...

"Маленькі анёлак" у выкананні Раісы Астрадзінавай — пяшчотная і трохі палахлівая істота, якая адкрывае для сябе вялізны свет людзей і жывёл — свет, у які яго, анёлка, паслалі служыць. Людзі для яго занадта складаныя — і таму ён хоча выслухаць пакінутых жывёл і данесці іх скаргі і малітвы да Усявышняга. Але не ўсе жывёлы гэтага хочуць — певень, напрыклад, цалкам задаволены і сваім жыццём, і сваім, хаця і невялічкім, "гарэмам" і фанабэрыста не хоча прымаць аніякае дапамогі. Задаволеная сваім існаваннем і блыха, якая рагоча з самога гэтага маленькага анёлка, які нічога не можа з ёю зрабіць... А вось сабака, які прыкаваны ланцугом за шыю, ці свінчо, якое гадуюць для забойства, пасылаюць праз анёлка малітвы Усявышняму і хочуць спагады...



"Такі монаспектакль патрабуе ад актрысы амаль ювелірнага майстэрства, ён складаны і шматпланавы, але затое тут можна раскрыць сябе ва ўсёй паўнаце", — лічыць рэжысёр-пастаноўшчык спектакля "Маленькі анёлак" (п'еса С.Кавалёва па вершах французскай манахіні Гаштольд, продкі якой, дарэчы, паходзяць з Вялікага княства Літоўскага) Галіна Дзягілева.

Спектакль цікавы не толькі арыгінальным матэрыялам і рэжысурай, але і тым, што ён уключае некалькі дэбютантаў — актрысу Р.Астрадзінаву, кампазітара У.Грыцкевіча, драматурга С.Кавалёва, рэжысёра Г.Дзягілеву.

Актрыса Галіна Дзягілева, арганізатар і "душа" гэтага невялікага калектыву, добра ведае, што значыць для актрысы монаспектакль. Стварыўшы на сцэне вобразы Рагнеды і палымянай патрыёткі-паэткі Ларысы Геніюш, яна, разам з майстрам руху Уладзімірам Колесавым і Таццянай Лісавенка, якая працавала над касцюмамі, змагла наладзіць на сцэне яркае, святочнае відовішча ("амаль з нічога", як заўважыла адна з актрыс ТЮГа, якая разам з калегамі прыйшла на прэм'еру "сваёй", ТЮГаўскай актрысы).

Магчыма, з цягам часу спектакль набудзе большую цэласнасць, закончанасць думкі і вобраза, але школьнікі, якія разам з намі глядзелі "Маленькага анёлка", смяяліся і шкадавалі, а галоўнае — спачувалі "братам меншым нашым" — і можа, ад гэтага свет сам па сабе хоць крыху стане лепшым...

**Наш кар.**



# 45 ГОД НА СЦЭНЕ

Падзеяй у культурным жыцці сталіцы стаў бенефіс вядомага артыста Расціслава Янкоўскага, які адбыўся 5 лютага ў Рускім драматычным тэатры Мінска. Павіншаваць майстра сабралася ўся дынастыя Янкоўскіх. Бенефіс Расціслава Іванавіча стаў сведчаннем любові гледачоў да артыста.

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БЕЛІНФАРМ**

чыны: яны ніколі не мянцяць языкамі. А наша мастацкае і ваколмастацкае балбатанне ўжо прыгнятае.

**— Агульнасць светапогляду, светаўспрымання ды антыпатый (сімпатый) да ўрада — абавязковая падстава для суполак, груповак, гуртоў?**

— "Нецэзіўдзік" сканаў якраз праз ідэалагічныя непаразуменні. Анатоль Асмалоўскі, узяўшыся за нашы ідэалагічныя падваліны, мусіў быў іх мацаваць: дзе выстаўляцца, як, на якіх умовах, з якім куратарам і г.д. Высветлілася, што — магутныя асабісты, так, ад слова асоба, што кожны, каб даўмецца толькі свайго, робіць магчымае і немагчымае. Мо таталітарызм нас такімі зрабіў, а калектывізм сапсаваў канчаткова? Мы і разышліся. У сучаснае мастацтва — Асмалоўскі, Аляксандр Брэнер, я, Алег Маўрамаці. Хтосьці падаўся ў сектанты, у вернікі, у казіно...

**— Прынамсі цябе не было сярод бясштанных дзецюкоў на фоне паленай беладомаўскай мураванкі...**

— Каб да таго часу мае ідэалагічныя падваліны не пасунуліся, я б там стаяў таксама. Без штаноў. Але цяпер мяне цікавіць іншае. Філасофская і ідэалагічная платформа з яркім угледным шэрагам. Шмат якія мастакі грэбуюць яркасцю, бачнасцю, кідкасцю, пераканаўчасцю, — мяркую, яны памыляюцца. Тэкст і перакананні, пададзеныя на паперы, лепш за ўсё пацвярджаць выяваю.

**— А як паладзілі між сабою ў асобе аднаго Халезіна сцэнаграфія ды жывапіс?**

— Я пакінуў сцэнаграфію. Можна сказаць, кінуў. Зусім, зусім. Не мог увасобіць аніводнае сваёй ідэі. Адзінаю светлаю плямінаю ў маёй тэатральнай дзейнасці сталася работа з Андрэем Фёдаравічам Андросікам над "Камедыяй..." у Альтэрнатыўным тэатры. Вабілі батлейкавы і школярскія прынцыпы, прыёмы яе вырашэння. Я магу гэты спектакль глядзець бясконца: чымсьці ён мне нагадвае работы Панізоўскага. Яшчэ не бачыў двух аднолькавых спектакляў... Там пакінулі шмат прасторы для імправізацый, — балазе Жураўкіну, Шуляку, Забару не бракуе фантазіі...

**— Вядома, вядома як Забара фантазіраваў, Чортам лётаючы. Прычапіў сабе такое маленькае вымя: мала беднаму Жыду (Жураўкіну) было яму хваста адрываць, давялося цягнуць і ўсё, што вісела й боўталася...**

— На што Чорт, спагадзя, сказаў: "Хто мне... усё адарваў?" А што да прыдумкі, дык гэта была мая ідэя — надзімаць гумовую пальчатку... Мы сядзелі ў грымёрцы, калі ўвайшоў строгі Андросік. Угневаны. Але Забара пачаў тлумачыць, як доўга ён думаў, хто ж такі Чорт, мужчына ці жанчына, дый паспрабаваў іх спалучыць.

**— Паводле іншае версіі, Забара сціпла пацікавіўся, ці мо Андрэй Фёдаравіч сам бачыў Чорта, каб як найпэўна падаць і пераняць ягоны выгляд... А ты хацеў бы вярнуцца ў тэатр?**

— Я хацеў бы. Нават п'есу напісаў...

**— А з кім ты цяпер прадстаўляеш "Vita nova"?**

— Я, так бы мовіць, ля ейных вытокаў разам з нашым дырэктарам Валерыем Чамбарысавым, калісьці мы дзялілі творчыя радасці з Генадзем Ярэськам і Васілём Шугалеем (яны цяпер радуюцца не з намі). З намі працуюць Дзмітрый Плакс як эксперт, Фаціма Баранава як менеджэр і Аліна Грынь як бухгалтар. Ва ўсіх нашых вар'яцтвах бярэ чынны ўдзел прадпрымальнік, фундатар, спонсар і г.д. Валерый Мацулевіч разам са сваім ВІТТам, і да нядаўняга часу мы меркавалі, што Мацулевіч — адзіны сярод сур'ёзных, хто можа з намі авантурнічаць. Мо таму, што мы сябры, а мо таму, што і яму хочацца цікава жыць? 12 снежня мы зладзілі ў Мінску канцэрт групы "Лайбах" — добрай утворнай часціны сучаснага славянскага мастацтва. Як музыкі яны — у вышэйшым прафесійным эшалоне, але за адным разам уяўляюць сабою часціну вялікага трыумвірату — прадстаўнікоў тэатра (пластычна-кінетычнага), выяўленчага мастацтва ды ўласна музычнага. Калісьці я намагаўся захапіць падобнаю ідэяй Альтэрнатыўны тэатр (працаваць у адзінай эстэтычнай сітэме разам), але ў нас зусім розныя ідэалагічныя падваліны. Вітаўтас Грыгалюнас выяўляецца як рэжысёр традыцыйны, мы — радыкалы; аднадумцаў-музыкаў мы тады так і не спаткалі...

**— А цяпер?**

— У студзені, на Днях джаза, мы давялі, як музыкам можна з намі яднацца. Цяпер мы ўваходзім з праектамі ў Беларускую дзяржаўную філармонію, дзе Валерый Уколаў, дырэктар канцэртнае залы, падзяляе нашы погляды. Цікавым было і спалучэнне спонсараў. Кожны з іх аплачваў упадабаны гурт. У сакавіку будзем ладзіць вялікую імпрэзу (выставу), — каб запрасіць на яе спартоўцаў, акцёраў, палітыкаў і яшчэ шмат каго. Такі сход — першая спроба распачаць ствараць у Беларусі інстытут істэблішменту; ва ўсім свеце менавіта ён падхоплівае, спавядае, папулярызуе ідэі, мае вялікі ўплыў на палітыку, на людзей, на грамадскае меркаванне, а ў нас... вычэрпваецца двума-трыма радкамі ў газеце пра дарунак эстраднаму спеваку — аўто... Варта, каб вядомыя людзі больш зважалі на свае паводзіны, мовім так, сярод грамады; прызнасць да алкагольных напояў або нягегласці, няспрыт за сталом назаўтра могуць трапіць у газеты ў адпаведнай падачы... Мы заахвочваем думанне, мысьлярства, інтэлектуальнае жыццё любымі сродкамі ды спосабамі. Са свайго боку мусім папярэдзіць гарадскога галаву (мэра), урад і прэзідэнта, каб яны былі гатовыя да ўсяго...

— ?!

— Да любой нечаканай праявы, але каб яны ставіліся да яе, як да праявы мастацкага (падкрэсліваю і настойваю) жыцця. Мы, паводле сваіх перакананняў, мусім узарваць і ўзарвем усе сферы мастацтва... Пакуль не чапаем адно класічнага балета: спадар Елізар'еў можа спаць спакойна. Бо ў балеце і так усё добра — і з класічнымі, і з традыцыйнымі, і з сучаснымі праявамі. Паважаем спадара Елізар'ева як спраўнага барацьбіта, змагара за сваё мастацтва. Паважаем рэвалюцыянера — мовім так, аксамітнага рэвалюцыянера, але праўдзівага.

**— А што, калегі па маскоўскіх рэвалюцыях вам адчувальна дапамагаюць?**

— Маскоўскі цэнтр сучаснага мастацтва цяперака ўвогуле згарнуў выставы і ўзяўся адно за канферэнцыі, семінары, гутаркі — абмеркаванні, так бы мовіць. Рыхтуеца ўвасобіць некалькі нашых праектаў, але вымагае, каб яны самі па сабе грунтаваліся на размовах-семінарах. Каб быў там такі канфлікт, на які немагчыма было б не адказаць — грамадскім розгаласам. Дарэчы, мы цяпер садзейнічаем маскоўскаму цэнтру, распаўсюджваем у нас часопіс "Художественный журнал", які супольна з ІМА-прэс выпускае Маскоўскі цэнтр сучаснага мастацтва. Рэч надта стратная, але жыць у пустэльні — без сучасных думак — яшчэ больш стратна. На жаль, на ўвесь так званы СНД гэта — адзіны часопіс па сучасным мастацтве, які выпускаецца рэгулярна. На Беларусі "Vita nova" прадстаўляе і знакаміты даведнік па сучасным мастацтве, які выходзіць ва ўсіх найбуйнейшых краінах.

**— Ці працуеце вы як пасрэднікі між мастакамі і пакупнікамі?**

— Як такім, продажам работ мы не займаемся: "Vita nova" — цэнтр мастацкі, не камерцыйны. Мы сутыкаем, знаёмім мастака з пакупнікам, дапамагаем ім знайсці адно аднаго і паразумецца. Але мы — не галерэя, у нас іншая канцэпцыя і прынцыпы працы.

**— А якія мастацкія з'явы выгукаюць ваша раздражненне?**

— Прыкладам, фестываль "Рок супраць рэвалюцый". Што азначае — супраць рэвалюцый? Што, так і будзем іграць усё тое, што іграем? Або яны ўспрымаюць рэвалюцыю толькі як кастрычніцкую ды сацыялістычную? Ёсць жа рэвалюцыі ў мастацтве! Чаго б мы былі вартыя без іх?!

**— Мікалай, мабыць, мы ўсе блытаемся ў тэрмінах, але робімся гранічна асцярожнымі, нават у словах, калі прывідам узнікае рэвалюцыйнае мора крыві, надта далёкае ад мастацтва. Мабыць, падсвядома і вы, і рок-музыкі маеце на ўвазе ўсё-такі эвалюцыю (скачкамі ці як там трэба, — я не спецыяліст, патлумачыць не магу)?**

— Можа быць. Можа. Нават, думаю, так і ёсць. Але ў мастацтве ўжо склалася ўстойлівая тэрміналогія. І тэрміналагічна фармуляваць варта больш дакладна...

**— Мікалай, а каму вы аддаяце перавагу ў зносінах, у рабоце, у творчым абмене?**

— Таму, хто, паводле нашых перакананняў ды крытэрыяў, адпавядае сучаснаму мастацтву... Увогуле мы давяраем сваім пачуццям і адчуванням...

**— А што трэба зрабіць, каб патрапіць разам з вамі адчуваць?**

— Толькі прыйсці да нас і паказацца. Усё вельмі проста. Але не крыўдаваць, калі мы не захочам супрацоўнічаць. Урэшце ўсім пакрыўджаным мы амаль заўжды знаходзілі кагосьці ці штосьці, — людзей, адрасы, галерэі, цэнтры, якія браліся супрацоўнічаць, дапамагаць, папулярызаваць, а то і купляць... Наша сфера — мысьлярчая. Мы ўсё-такі аддаем перавагу заахвочванню мысьлярства...

**Гутарку вяла Жана ЛАШКЕВІЧ**
**Фота "Vita nova"**

## РАІМСЯ З ЧЫТАЧОМ

*Праект*

### *ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ*
### *АБ БІБЛІЯТЭЧНАЙ СПРАВЕ Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ*

*(Заканчэнне. Пачатак у № 6 за г.г.)*

**Глава 5.**
**СІСТЭМА БІБЛІЯТЭК РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

**Артыкул 19. Сістэма бібліятэк Рэспублікі Беларусь**

Бібліятэкі ў Рэспубліцы Беларусь незалежныя ад іх ведамаснай прыналежнасці, апрача прыватных, складаюць адзіную сістэму бібліятэк, аб'яднаных агульнасцю мэт і прынцыпаў дзейнасці. Сістэма забяспечвае бібліятэчнае абслугоўванне грамадзян па месцы жыхарства, работы, вучобы, адпачынку, лячэння шляхам узаемадзеяння і ўзаемавыкарыстання рэсурсаў.

На раённым (гарадскім) узроўні ўзаемадзеянне паміж бібліятэкамі розных відаў ажыццяўляе раённая (гарадская) цэнтральная бібліятэка, на абласным — абласная навуковая бібліятэка, на рэспубліканскім — Нацыянальная бібліятэка Беларусі.

Рэспубліканскія галіновыя бібліятэкі ажыццяўляюць узаемадзеянне адпаведных спецыяльных бібліятэк.

**Артыкул 20. Нацыянальная бібліятэка Беларусі**

Нацыянальная бібліятэка Беларусі з'яўляецца галоўнай бібліятэкай Рэспублікі Беларусь, мае найбольш поўны універсальны збор беларускіх, замежных кніг і іншых дакументаў, арганізуе іх выкарыстанне ў інтарэсах развіцця вытворчасці, навукі і культуры.

Нацыянальная бібліятэка Беларусі забяспечвае фарміраванне поўнага фонду нацыянальных выданняў, устанаўлівае і развівае непасрэдныя сувязі з беларускай дыяспарай.

Нацыянальная бібліятэка Беларусі з'яўляецца агульнадаступнай бібліятэкай, якая задавальняе патрэбы грамадзян, прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў у дакументах праз сістэму чытальных залаў, міжбібліятэчнага і міжнароднага абанементаў, фарміруе адзіны рэспубліканскі аўтаматызаваны банк аб бібліятэчных фондах. Як галоўная бібліятэка Рэспублікі Беларусь каардынуе асноўныя напрамкі бібліятэчна-бібліяграфічнай дзейнасці, ажыццяўляе міжнароднае супрацоўніцтва з нацыянальнымі бібліятэкамі і блізкімі па сферы дзейнасці ўстановамі замежных краін.

**Артыкул 21. Цэнтральная навуковая бібліятэка Акадэміі навук Беларусі**

Цэнтральная навуковая бібліятэка Акадэміі навук Беларусі мае статус навукова-даследчай установы, ажыццяўляе навуковыя і культурныя сувязі з навуковымі бібліятэкамі і ўстановамі замежных краін.

Бібліятэка мае універсальныя фонды айчынных і замежных дакументаў, якія забяспечваюць інфармацыйна-бібліятэчныя патрэбы навукова-даследчых і вышэйшых навучальных устаноў Рэспублікі Беларусь, вучоных і спецыялістаў розных галін гаспадаркі і культуры, узначальвае сістэму бібліятэк навукова-даследчых устаноў Акадэміі навук Беларусі.

**Артыкул 22. Рэспубліканскія навуковыя галіновыя бібліятэкі**

Рэспубліканскія навуковыя галіновыя бібліятэкі з'яўляюцца агульнадаступнымі бібліятэкамі, якія задавальняюць патрэбы грамадзян, прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў у інфармацыі па адпаведных галінах ведаў, узначальваюць адпаведныя галіновыя сістэмы бібліятэк, з'яўляюцца іх навуковымі каардынацыйнымі цэнтрамі, фарміруюць свае фонды і ствараюць аўтаматызаваныя галіновыя банкі даных, якія функцыянуюць у структуры адзінага рэспубліканскага аўтаматызаванага банка даных аб бібліятэчных фондах.

**Артыкул 23. Публічныя бібліятэкі**

Публічныя бібліятэкі забяспечваюць агульнаадукацыйныя, культурныя і эстэтычныя патрэбы грамадзян, спрыяюць выхаванню дзяцей і падлеткаў. Публічныя бібліятэкі ўтрымліваюцца дзяржавай.

Функцыі публічных бібліятэк па рашэнні выканаўчых камітэтаў мясцовых Саветаў дэпутатаў могуць выконваць і бібліятэкі іншых ведамстваў.

Сетка публічных бібліятэк фарміруецца з улікам колькасці насельніцтва і шчыльнасці засялення ў адпаведнасці з дзеючымі нарматывамі, якія ўстанаўліваюцца цэнтральным органам кіравання Рэспублікі Беларусь у галіне бібліятэчнай справы.

**Артыкул 24. Спецыяльныя бібліятэкі**

Спецыяльныя бібліятэкі выконваюць функцыі, накіраваныя на задавальненне патрэб пэўных слаёў насельніцтва (спецыялістаў, навукоўцаў, навучэнцаў), абмежаваныя сферай дзейнасці міністэрстваў, дзяржаўных камітэтаў, ведамстваў, прадпрыемстваў, арганізацый, устаноў, грамадскіх аб'яднанняў.

**Артыкул 25. Формы аб'яднання бібліятэк і ўзаемавыкарыстанне фондаў**

Для рэалізацыі прынцыпу агульнадаступнасці да бібліятэчных фондаў і пераадолення ведамаснай раз'яднанасці бібліятэкі маюць права на любыя формы аб'яднання, якія ствараюцца па тэрытарыяльным, галіновым і іншых прынцыпах.

Бібліятэкі незалежна ад ведамаснай прыналежнасці і форм уласнасці ажыццяўляюць выкарыстанне фондаў на аснове адзінага рэспубліканскага аўтаматызаванага банка даных аб бібліятэчных фондах пры мінімальным тэхналагічным дубліраванні і дакладным размежаванні функцый.

**Артыкул 26. Узаемадзеянне бібліятэк з іншымі інфармацыйнымі структурамі**

З мэтай павышэння эфектыўнасці выкарыстання інфармацыйных рэсурсаў Рэспублікі Беларусь бібліятэкі ўзаемадзейнічаюць з органамі навукова-тэхнічнай інфармацыі (НТІ), архівамі, музеямі і іншымі ўстановамі на дагаворных узаемавыгадных умовах.

Для стварэння інфармацыйна-бібліяграфічных баз даных (зводных каталогаў) бібліятэкам гарантуецца вычарпальнасць інфармацыі аб музейных і архіўных фондах.

**Глава 5. ДЗЯРЖАЎНАЯ ПАЛІТЫКА Ў ГАЛІНЕ БІБЛІЯТЭЧНАЙ СПРАВЫ. ФІНАНСАВАННЕ БІБЛІЯТЭК**

**Артыкул 27. Органы кіравання бібліятэчнай справай**

Кіраванне бібліятэчнай справай у Рэспубліцы Беларусь носіць дзяржаўна-грамадскі характар і ажыццяўляецца дзяржаўнымі органамі, прадпрыемствамі, установамі, арганізацыямі, грамадскімі аб'яднаннямі, якія маюць сетку бібліятэк.

Цэнтральны орган кіравання Рэспублікі Беларусь у галіне бібліятэчнай справы:

рэалізуе адзіную дзяржаўную палітыку, разам з адпаведнымі міністэрствамі і ведамствамі распрацоўвае нарматыўныя дакументы і ажыццяўляе кантроль у галіне бібліятэчнай справы:

узначальвае распрацоўку і ажыццяўленне рэспубліканскіх комплексных мэтавых праграм;

вызначае дзяржаўныя патрабаванні да ўзроўню бібліятэчнага абслугоўвання;

вырашае іншыя пытанні бібліятэчнай справы, што аднесены да яго кампетэнцыі.

Мясцовыя Саветы дэпутатаў, выканаўчыя і распарадчыя органы:

забяспечваюць аптымальнае развіццё і рэгуляванне сеткі бібліятэк, стварэнне спрыяльных умоў для іх дзейнасці;

ажыццяўляюць кантроль за арганізацыяй бібліятэчнага абслугоўвання на адпаведнай тэрыторыі.

Органамі грамадскага прафесійнага бібліятэчнага самакіравання з'яўляюцца бібліятэчныя таварыствы, асацыяцыі і іншыя аб'яднанні бібліятэк.

**Артыкул 28. Бібліятэчныя аб'яднанні**

Бібліятэчныя таварыствы, асацыяцыі і іншыя аб'яднанні бібліятэк ажыццяўляюць непасрэднае прафесійнае кіраванне бібліятэкамі, калі іншае не прадугледжана статутамі такіх аб'яднанняў.

Яны маюць права на:

сацыяльную і юрыдычную абарону прафесійных інтарэсаў сваіх членаў;

унясенне ў адпаведныя органы і бібліятэкі прапаноў, накіраваных на ўдасканаленне дзейнасці бібліятэк, падрыхтоўку бібліятэчных кадраў.

**Артыкул 29. Фінансаванне бібліятэк.**

Фінансаванне бібліятэк ажыццяўляецца ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб культуры ў Рэспубліцы Беларусь".

Асноўнай крыніцай фінансавання бібліятэк з'яўляюцца сродкі іх уласнікаў, у тым ліку сродкі дзяржаўнага бюджэту (для дзяржаўных бібліятэк), якія выдзяляюцца ва ўстаноўленым парадку са штогадовым удакладненнем памераў асігнаванняў у залежнасці ад узроўню цэн на ўнутраным і знешнім рынках.

Ведамасныя бібліятэкі, якія па рашэнні выканаўчых камітэтаў мясцовых Саветаў дэпутатаў выконваюць функцыі публічных, маюць права на дадатковае фінансаванне за кошт бюджэту адпаведных мясцовых Саветаў дэпутатаў.

Фінансаванне бібліятэк на прадпрыемствах, у арганізацыях і аб'яднаннях ажыццяўляецца па нарматывах, вызначаных у калектыўных дагаворах.

Дадатковымі крыніцамі фінансавання бібліятэк з'яўляюцца:

паступленні ад гаспадарчай і іншай не забароненай законам дзейнасці бібліятэк;

дабрачынныя паступленні ад прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый усіх форм уласнасці, ад грамадскіх аб'яднанняў і грамадзян.

Сродкі, якія паступілі ў бібліятэку з дадатковых крыніц, не ўплываюць на нарматыў фінансавання.

**Артыкул 30. Фінансавыя і іншыя льготы**

Сродкі, накіраваныя на стварэнне бібліятэк, на іх статутную дзейнасць, незалежна ад крыніц іх фарміравання падаткамі не абкладаюцца.

Не абкладаецца падаткам прыбытак бібліятэк і створаных імі прадпрыемстваў пры ўмове, што ён выкарыстоўваецца на статутную дзейнасць бібліятэк.

Падаткаабкладанне прадпрыемстваў і арганізацый змяншаецца ў частцы прыбытку, атрыманага ад выпуску прадукцыі і выкананых паслуг для бібліятэк.

Устанаўліваюцца льготныя тарыфы:

на перасылку дакументаў бібліятэкам па міжбібліятэчным абанеменце;

на малааб'ёмныя кантэйнерныя перавозкі дакументаў, накіраваныя для камплектавання бібліятэчных фондаў.

Валютныя паступленні ад інфармацыйнага абслугоўвання замежных арганізацый і грамадзян, аказання іншых паслуг на аснове выкарыстання бібліятэчных фондаў і іншых крыніц застаюцца ў распараджэнні бібліятэк і не абкладаюцца падаткам.

**Глава 7. БІБЛІЯТЭЧНЫЯ КАДРЫ**

**Артыкул 31. Правы бібліятэчных работнікаў**

Правы і абавязкі работнікаў бібліятэк рэгулююцца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь аб працы.

Прыём на работу бібліятэчных работнікаў можа ажыццяўляцца на конкурснай або кантрактнай аснове ў парадку, вызначаным заканадаўствам Рэспублікі Беларусь. Бібліятэчныя работнікі падлягаюць перыядычнай атэстацыі.

Бібліятэчныя работнікі незалежна ад форм уласнасці і парадку заснавання бібліятэк карыстаюцца роўнымі правамі ў сферы працоўных адносін, у галіне сацыяльнага страхавання і забеспячэння.

Бібліятэчныя работнікі, якія працуюць у сельскай мясцовасці і рабочых пасёлках, карыстаюцца бясплатна жылым памяшканнем, ацяпленнем і асвятленнем.

**Артыкул 32. Падрыхтоўка і падвышэнне кваліфікацыі бібліятэчных кадраў**

Падрыхтоўка бібліятэчных кадраў ажыццяўляецца адпаведнымі вышэйшымі, сярэднімі спецыяльнымі навучальнымі ўстановамі і курсамі.

Пераважнае права пры назначэнні на штатныя пасады ў бібліятэках маюць асобы са спецыяльнай бібліятэчнай адукацыяй або іншай адпаведнай адукацыяй пры наяўнасці спецыяльнай падрыхтоўкі.

Дзяржаўныя органы ці асобы, якія ўтрымліваюць бібліятэкі, абавязаны ствараць умовы для падрыхтоўкі і падвышэння кваліфікацыі работнікаў бібліятэк праз існуючую сістэму падвышэння кваліфікацыі работнікаў культуры.

**Артыкул 33. Аплата працы і сацыяльныя гарантыі**

Дзяржава забяспечвае гарантаваны ўзровень аплаты працы бібліятэчных работнікаў і яе дыферэнцыяцыю ў залежнасці ад кваліфікацыі і вынікаў працы. Канкрэтны памер аплаты кожнага работніка вызначаецца па дамоўленасці бакоў і не можа быць ніжэй прадугледжанага заканадаўствам і калектыўным дагаворам.

Максімальны ўзровень заработнай платы не абмяжоўваецца і ўстанаўліваецца ў адпаведнасці з якасцю, колькасцю і грамадскім значэннем працы.

**Глава 8. МІЖНАРОДНЫЯ АДНОСІНЫ**

**Артыкул 34. Міжнароднае супрацоўніцтва бібліятэчных устаноў і арганізацый**

Бібліятэкі, якія з'яўляюцца юрыдычнымі асобамі, маюць права:

удзельнічаць у двухбаковым ці шматбаковым супрацоўніцтве з бібліятэкамі, бібліятэчнымі і іншымі блізкімі па сферы дзейнасці ўстановамі замежных краін;

уступаць у міжнародныя арганізацыі ў сферы бібліятэчнай справы і ствараць сумесныя прадпрыемствы з замежнымі партнёрамі ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку.

Дзяржава спрыяе міжнароднаму супрацоўніцтву бібліятэк, вызваляе бібліятэкі ад платы мытных пошлін і збораў за перасылку карэспандэнцый, матэрыялаў, тэхнічных сродкаў, абсталявання.

**Артыкул 35. Дзеянне міжнародных дагавораў**

Калі міжнароднымі дагаворамі ці міжнароднымі пагадненнямі, у якіх удзельнічае Рэспубліка Беларусь, устаноўлены іншыя нормы, чым тыя, якія змяшчаюцца ў гэтым Законе, то прымяняюцца нормы міжнародных дагавораў ці міжнародных пагадненняў.

**Глава 9. АДКАЗНАСЦЬ ЗА ПАРУШЭННЕ ЗАКАНАДАЎСТВА Ў ГАЛІНЕ БІБЛІЯТЭЧНАЙ СПРАВЫ**

**Артыкул 36. Адказнасць за парушэнне заканадаўства ў галіне бібліятэчнай справы**

Службовыя асобы і грамадзяне, якія дапусцілі парушэнне заканадаўства ў галіне бібліятэчнай справы, нясуць адказнасць, устаноўленую заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.



## ПРЫЗНАННЕ Ў БРЫТАНІІ

У віцебскіх танцораў Наталлі і Андрэя Кананенкаў дзень распісаны літаральна па хвілінах. Трэніроўкі, выступленні на сцэне абласной філармоніі, заняткі з юнымі танцорамі ў ансамблі "Мазаіка", падрыхтоўка да чэмпіянатаў свету і Еўропы... Нядаўна прафесійныя танцоры з Віцебска муж і жонка Кананенкі сталі членамі самай старой у свеце Брытанскай асацыяцыі настаўнікаў танца.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛІНФАРМ.**

## ПАМЯТНЫЯ СУСТРЭЧЫ

Удзельнікі дзіцячага ансамбля "Журавачка" пабывалі ў Польшчы, дзе выступілі са сваёй канцэртнай праграмай у адным з музычных цэнтраў гэтай краіны — горадзе Бельск-Падляскі. Запрашэнне на гастролі нашы юныя таленты атрымалі ад Беларускага культурна-асветнага таварыства ў Польшчы.

Два канцэрты дзіцячы ансамбль даў у Цэнтральным доме культуры. Аб вялікім захапленні публікі сведчыць той факт, што ўсе нумары праграмы заслужылі працяглыя апладысменты. А выступленне піяніста Юрыя Васільева з джазавымі кампазіцыямі вядучых сучасных аўтараў суправаджалася авацыяй.

Удзельнікам ансамбля надоўга запомняцца не толькі цёплыя сустрэчы з польскім гледачом, але і грамадаванне са сваімі равеснікамі. У юных талентаў пасля канцэртаў нават прасілі аўтографы.

На думку мастацкага кіраўніка "Журавачкі" Якава Бельніка, такія сустрэчы вельмі карысныя, бо назаўжды застаюцца ў памяці дзяцей абедзвюх краін. Добрых словаў заслугоўваюць тыя, хто дапамог калектыву выехаць на свае першыя замежныя канцэрты. Гэта, перадусім, кіраўнікі мінскіх станкабудаўнічых аб'яднанняў імя Кастрычніцкай рэвалюцыі і імя Кірава, Міністэрства культуры і друку, АТ "Беліндзяржстрах", кіраўніцтва пагранвойскаў нашай краіны і польская фірма "Бурба".

Разам з ансамблем у Польшчу выязджала група дзяцей, хворых ад наступстваў Чарнобыльскай аварыі. І вельмі важна, што іхні ўдзел у сумесных канцэртах "Журавачкі" жыватворна ўплывае на іхняе самапачуццё, уздымае настрой, спрыяе, у рэшце рэшт, вяртанню здароўя.

**Якаў РАСЕКА**

ЗАМЕСТ КРОПКІ

# ПАКУЛЬ БАЛІЦЬ ДУША, ДАТУЛЬ ЯНА ЖЫВАЯ...







"Мой родны кут" — так вырашыла назваць сваю выставу мастак-аматар Дзіна Мікалаеўна Шымук. Яе творы — гэта рэч вельмі незвычайная, арыгінальная. Мастачка працуе не з пэндзлем ці алоўкам — яна стварае прыгажосць пры дапамозе засушаных пялёсткаў кветак, лісточкаў, зёлак, сцяблінак. І называецца такі від мастацтва фларыстыкай.

Адной з наведвальніц выставы Дзіны Шымук была пісьменніца Вольга Іпатава, і вось якія цікавыя радкі пакінула яна ў кнізе водгукаў:

*Навука з навук —*
*Фларыстыка,*
*Вучуся ў Дзіны Шымук*
*З любоўю адчуць*
*Цуда лісціка.*

І сапраўды, фларыстыка — вялікая навука. Гледзячы на карціны, здаецца, што гэта проста — прыкладвай пялёстак да пялёстка і ўсё атрымаецца. Аказваецца, такое ўражанне надзвычай павярхоўнае. Сама Дзіна Мікалаеўна неяк прызналася, што ножкі для адной са сваіх "пялёсткавых" прыгажунь яна шукала ажно восем дзён! І, наогул, час — не галоўны крытэрый падчас працы над мастацкімі творамі. Бывае, што сюжэт нараджаецца за некалькі імгненняў, а іншым разам праца доўжыцца некалькі тыдняў — на ўсё воля Божая, як і сам гэты незвычайны дар — уменне адчуць унутраную гармонію раслін, удыхнуць у кволыя засохлыя пялёсткі другое жыццё — жыццё ў мастацкім творы.

Дарэчы, выразы "незвычайны дар" і "дар ад Бога" найбольш часта сустракаюцца ў кнізе водгукаў на творы мастачкі. І сама Дзіна Мікалаеўна развіццё свайго выключнага адчування ўнутранай сутнасці засушаных раслін не можа растлумачыць зямнымі прычынамі. Пасля плённай працы ў Нацыянальным музеі яна апынулася на заслужаным адпачынку і адразу адчула сябе адрынутай ад жыцця. Можа, у гэты час убачыў Усявышні яе сумныя вочы і ўклаў ёй у рукі засохлыя пялёсткі ад шыкоўнага букета ружаў, падараванага калегамі ў апошні працоўны дзень. З гэтых дзевяці ружаў усё і пачалося. І сёння абаяльная Дзіна Мікалаеўна ўпэўнена сцвярджае — жыццё пасля выхаду на пенсію не заканчваецца, яно толькі пачынаецца, наступае той час, калі пачынаеш пераасэнсоўваць пражытае і знаходзіш у сабе шмат нерэалізаваных задум і магчымасцей, прыходзіць пара, калі рукам хочацца адпачыць, а душа прагне пошуку, руху, працы. Трэба толькі не спалохаць гэты пакліч душы, своечасова адгукнуцца на яго.

Мастачцы Дзіне Шымук гэта ўдалося — душа яе працуе, і таму нібыта ажываюць зямныя і касмічныя пейзажы, сакавітыя нацюрморты, літаратурныя і казачныя персанажы. З-пад яе цудоўных рук выйшлі партрэты Ахматавай, Наталі (зборны вобраз пушкінскіх твораў), Акіна-сан. Як кожны паважаючы сябе мастак, наша гераіня стварыла аўтапартрэт з глыбокімі незабудкавымі вачыма, ружовымі вуснамі і чароўнымі фіялкавымі валасамі.

Дарэчы, Дзіна Мікалаеўна ніколі не карыстаецца нажніцамі, што, гледзячы на яе работы, здаецца зусім неверагодным. Некаторыя дэталькі партрэта ці пейзажа часта так і не ўдаецца знайсці ў натуральным выглядзе і тады іх проста трэба... дамысліць. Такая "недэталёвасць" надае своеасаблівую пікантнасць работам, а тое, што нельга ўбачыць, фантазія кожнага чалавека дамалёўвае на свой уласны густ.

Кожная з работ здзіўляе сваёй прыгажосцю і вытанчанасцю. Магчыма, таму і папулярныя сёння гэтыя непаўторныя маленькія шэдэўры сярод прыхільнікаў сапраўднага мастацтва, збіральнікаў уласных калекцый.



Выстава працуе ўсяго некалькі тыдняў, а амаль ці не дзесятак карцін ужо знайшлі сваіх новых гаспадароў, хаця кошт работ ацэнены ў далярах ЗША і радавому наведніку, прама скажам, не па кішэні. І такі факт, думаю, ніхто не возьмецца аспрэчваць, бо ва ўсе часы творы сапраўднага мастацтва каштавалі не танна і былі даступныя не кожнаму. Таму, шаноўнае спадарства, спяшайцеся паглядзець цудоўную калекцыю Дзіны Шымук у Літаратурным музеі Я.Коласа, таму што не сёння-заўтра большасць, вядома, самых прыгожых, работ апынецца ў прыватных калекцыях, пабачыць якія нам з Вамі наўрад ці ўдасца.

**Ганна ЗАЙЦАВА**

**Фота Уладзіміра ГУЗОЎСКАГА**

## ПЕРЫСКОП "КУЛЬТУРЫ"

* * *

Дабрачыннае таварыства "Арбайтэрвольфарт Райн Некар" папрасіла вядучых германскіх палітыкаў распавесці ўласна складзеную казку. Шмат хто з іх праявіў добрую фантазію і літаратурны талент. Нядаўна гэтыя творы былі выдадзеныя асобнай кніжкай, прыбытак ад якой прызначаецца на дабрачынныя мэты. Канцлер Гельмут Коль распавёў гісторыю аб вандроўцы ў горы трох сяброў. Мараль яе — у перакананні, што да адной мэты вядуць розныя шляхі. Былы канцлер Гельмут Шміт распавёў аб жывёлах, за якімі назіраў на ўласным лецішчы. Надбургамістр Штутгарта Манфрэд Ромель нагадаў аб варунках чалавечага жыцця перад адкрыццём электрычнасці. А Крысціна Бергман, бургамістр Берліна, пераказала байку аб лісе-хітрусе.

* * *

Па заканчэнні рэстаўрацыйных прац у Сікстынскай капліцы ізноў адкрыты твор Мікеланджэла "Апошні суд". Маляванне фрэсак калісьці заняло ў мастака пяць гадоў, а цяперашняя іх рэстаўрацыя — чатырнаццаць. Гэты манументальны твор — семнаццаць метраў у даўжыню і чатырнаццаць у шырыню — цяпер ізноў могуць пабачыць турысты, што наведваюць Ватыканскі музей. Калі ў 1533 годзе Мікеланджэла атрымаў ад папы Клімента VII замову намаляваць канец свету, ён быў ужо вельмі вядомым мастаком, шанаваным у многіх краінах. Тым не менш ягоны "Апошні суд" нарабіў скандалу з прычыны "пажадлівай аголенасці" персанажаў, а таксама занадта аптымістычнага ўяўлення аб канцы свету. Светлыя яркія колеры не адпавядалі змрочнаму бачанню апошняга дня тэолагамі XVI стагоддзя. Пачынаючы з 1565 года ў некаторых месцах фрэскі былі перафарбаваныя. Кіраўніцтва Ватыканскага музея занепакоена шкодай, якую могуць зрабіць фрэскам шматлікія наведнікі капліцы (каля 800 штодня). Нягледзячы на спецыяльнае кліматызацыйнае і ахоўнае абсталяванне, згубны эфект чалавечага подыху можа неўзабаве знявечыць працу рэстаўратараў.

* * *

У гарах Алтая навукоўцы знайшлі добра захаваную мумію жанчыны з племя скіфаў. Па меркаванні археолагаў, кабета, якой дзве з паловай тысячы гадоў, у свой час была пекнай, маладой і карысталася вялікім поспехам у мужчын. Яна любіла дарагія ўбранні і экстравагантныя фрызуры. Апошні свой дзень яна бавіла, ужываючы гашыш. Расійскія навукоўцы больш за тры месяцы працавалі над тым, каб вызваліць цела з зямлі і лёду. Рэнтгенаўскія здымкі, зробленыя даследчыкамі з Цюрыхскага універсітэта, паказалі, што яно не мела ніякіх унутраных пашкоджанняў, якія маглі б стацца прычынай смерці. Затое швейцарскія навукоўцы вызначылі век кабеты: 25 — 30 гадоў. Адзін з іх, Матыас Зайферт, браў удзел у гэтай экспедыцыі і апісаў гэтую незвычайную падзею. "Мумія была ў фантастычна добрым стане, а яе скура — такой жа бронзавай, як у тых людзей, што мы сустракалі ў далінах. Аднак пазней гэты выключны для навукі скарб быў перавезены ў Новасібірск — у халадзільным кантэйнеры, разам з нейкім сырам і зялёным гарошкам. Неўзабаве скура жанчыны сцямнела, і татуіроўкі сёння ўжо цяжка ўбачыць. Калі такое стаўленне да муміі не зменіцца, расіяне праз некаторы час папросту выкінуць яе на сметнік", — папярэджвае швейцарскі навуковец.

**По матэрыялах замежнага друку падрыхтаваў Юрась БАРЫСЕВІЧ**

## АНОНС!



7 лютага ў клубе "Xantia" (у памяшканні кавярні Дома афіцэраў) мастакі-авангардысты Алесь Эроціч (Тарановіч) і Андрэй Вераб'ёў ладзілі мастацкую акцыю "Пранікненьне". Рэдакцыйны каментар да падзеі — у наступным нумары.


КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ
ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
**выдаецца з кастрычніка 1991года**

Заснавальнік —
**Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**

Нам.галоўнага рэдактара —
**Людміла КРУШЫНСКАЯ**

**Рэдкалегія:**
**А. ВАНІЦКІ, В. ГЕДРОЙЦ, У. ГІЛЕП, Н. ЗАГОРСКАЯ, С. ЗАКОННІКАЎ, В. ІПАТАВА, А. КУДРАВЕЦ, М. КУПАВА, В. РАКІЦКІ, В. СКВАРЦОЎ, К. ТАРАСАЎ, А. ТРУСАЎ, В. ТУРАЎ, В. ШАРАНГОВІЧ**

Адказны сакратар — **Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**
Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Кампутарная вёрстка — **Андрэй ВАШКЕВІЧ**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: **76-94-66**

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3.

Індэкс 63875
Агульны наклад 6500
Замова 52
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**

**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**